PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 23 (1986) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 5 ЧЭРВЕНЯ 1994 г. ЦАНА 4000 зл.

## ГАЙНАЎСКІЯ НАПЕВЫ — АДКРЫЦЦЁ

22 мая. Над усімі ўязнымі ў Гайнаўку вуліцамі лунаюць транспаранты XIII Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі „Гайнаўка-94". Гайнаўскі дом культуры — тут знаходзіцца бюро Фестывалю — упрыгожаны сцягамі дзяржаў, хоры з якіх прымуць удзел у імпрэзе. Агулам сцягоў павінна быць трынаццаць. Двух бракуе — хтосьці ўвечары іх свіснуў. Такія ж сцягі вісяць таксама пры ўваходзе на царкоўны пляц сабора св. Тройцы.

15-ая гадзіна. Праз тры гадзіны афіцыйна адчыніцца імпрэза, якая і дасць пачатак летнему музычнаму сезону — пазней ужо адгучаць „Свята беларускай песні" ў чэрвені ды „Басовішча" ў ліпені. У саборы *(на здымку)* закончылася ўжо святочная багаслужба. Толькі крамнікі збіраюць свае куфэркі з карамелькамі. Хтосьці яшчэ пры царкоўнай браме паказвае карціны. У самой царкве паразвешваныя ўжо эмблемы Фестывалю з надпісамі на ангельскай і польскай мовах. Царква, аднак, працуе яшчэ сваім звычайным рытмам. Вянчаюцца якраз Хрыстафор і Альжбета...

Надвор'е нейкае такое невыразнае.

— Каб толькі народ быў, — крышку хвалюецца за лёс імпрэзы ейны дырэктар Мікалай Бушко.

Шлюб у саборы канчаецца. Крамнікі ўхапіліся за мётлы ды парадкуюць пляцоўкі, дзе стаялі іхнія гешэфты. Падымаюцца пры гэтым туманы пылу. У сабор пачынаюць зносіць крэслы.

☞ *Працяг на стар. 9*



ДА 40-ГОДДЗЯ ГАРАДОЦКАГА ХОРУ

## А Ў ДУШЫ ІХ — МАЛАДОСЦЬ

Што мне падабаецца ў гарадоцкіх людзей, дык гэта тое, што ўсе добрыя ўчынкі яны прыпісваюць іншым, не сабе. Тут бачаць чалавека.

Спачатку я вырашыла сустрэцца ў Ваяводскім асяродку анімацыі культуры са Сцяпанам Копам. Ці ж ён таксама не гарадоцкі чалавек, хаця і жыве ў Беластоку?! Вось хутка ўжо трыццацігоддзе святкаваць будзе з часу, калі пачаў працаваць з тутэйшымі спявачкамі, даязджаў у сонца і дождж, ніколі не падвёў іх, зжыўся з калектывам у адно, выступаў разам з імі на розных святах і аглядах, ездзіў па Польшчы і за граніцу. Сёння без музычнага кіраўніка і акампаніятара — як быць?

Сцяпан Копа сказаў, што гэта не ён тут кіруе, а Ніна Цыванюк. Яна спявала ад пачатку і падмяніла цяпер Ніну Мушынскую, шматгадовага іх кіраўніка, з якою разам стваралі калектыў 40 гадоў таму назад. Гэта яна цяпер там галоўным арганізатарам. А ён што? Ну, падбіраў рэпертуар, былі гэта ў асноўным беларускія народныя песні і песні беларускіх аўтараў з розных даступных песенных зборнікаў. Калі вычарпаўся мясцовы фальклорны матэрыял, які складалі самі жанчыны, а найбольш Ніна Мушынская, дык запісаў ён у суседніх Меляшках хрысцінныя песні, якія потым былі выкарыстаны ў абрадзе хрысцін. Ездзілі нават з гэтай пастаноўкай у Казімеж на Вісле, у Вэнгажэва.

Цяперашняя праграма, на святкаванне 40-годдзя хору, гэта панарама, агляд яго дзейнасці на працягу ўсіх гэтых гадоў.

Сцяпан Копа найлепш ведае пра ўсё, як і што было. І калісьці, і цяпер. Напішыце пра Лёніка Тарасэвіча, кажа. Ён жа тут колькі зрабіў! Ён старшыня камісіі культуры пры Радзе гміны, гэта

☞ *Працяг на стар. 8*




## МОРА НАРОДНАГА ГОРА

Напісаць гэты матэрыял падштурхнула нас вестка, што ў адной з вёсак (каля 200 сядзіб) толькі святар і мясцовы настаўнік дзінатуры[1] не п'юць.

Гарэліца, віно, настой, сівуха, піўцо, брага[2] ды іншыя напоі разлівістым рэчышчам спадарожнічаюць беларускаму лёсу. Нічога дзіўнага, бо ж з алкагольным пітвом, як маркуюць спецы па цвярозасці, знаёмы быў ужо чалавек неаліту. На дадатак, у выпадку беларусаў, усякія феадалы, паны, падпанкі ды наогул — прыгнятальнікі да зарэзу распівалі галадаючага мужыка. Валіўся такі без памяці, на парог замест падушкі, а бедныя дзеткі, нароблены гэтым жа панам, пішчалі толькі ды енчалі...

Шматвяковая палітыка прыгнятальнікаў прынесла своеасаблівы плён — у народзе вытварыліся прымаўкі: *мы не п'яніцы, мы з гора п'ем; толькі сволач і хворы не п'е; хто п'е, той з намі.*

Рэчышча народнага гора ў апошнія гады ўзбагацілася новымі якасцямі.

— Мушу з раніцы кульнуць кілішак сінюхі[3], — кажа 83-гадовая Гапка з К., — каб сярэдзіна рушыла.

Дзінатуршчыкі з К. нічога не разумеюць, бо ў Гапкі знайшлося б і на спірт. Але ж скупая і прынцыпова трымаецца сіняй[4].

Раней можна было ў вёсках дастаць адборны першачок[5]. Жорсткі праслед самагоншчыкаў прымусіў, аднак жа, шукаць легальныя і танныя напоі. Праслед гэты, адзначым, заключаўся між іншым у тым: падай на міліцыю, што цябе абакралі — прыедуць праз два дні, але скажы, што ў таго і таго халадзільнік[6] — з'явяцца ў пяць хвілін. Такім чынам дэнатурат стаўся бяспечным, у юрыдычным сэнсе легальным ды танным алкаголем. Піць яго пачалі не толькі старыя кавалеры, але і ўпадаючыя гаспадары, беспрацоўныя, удавіцы ды кволыя пенсіянеры.

Федзька з таго ж К. распіўся даволі рана, неяк да трыццаткі. Меў ладны кавалак зямлі, гаспадарыў на ім з маці, але не ажаніўся.

— Яна была каталічка, а я не мог змяніць веру, — паўтараў Федзька пры чарцы сваім сябрам з К. Пакуль піў з сябрамі, шляўся з імі ў недалёкай В., быццам усё было нармальна. Звярнуў на сябе ўвагу аднавяскоўцаў толькі тады, як хворая маці-пенсіянерка кійком-кульбакаю заганяла Федзьку ў хату. Маці даведалася, што сынок стаў па людзях хадзіць за дзінатурай. Як магла, старалася ўсцерагчы яго ад сораму. Ад згрызоты гэтай і памерла. Федзька распіўся яшчэ болей. Хадзіў з бутэлькай дзінатуры па К. і В., не даючы спаць сваімі жахлівымі спевамі. Нейкім зімовым днём знайшлі яго насмерць акасцянелага пад мосцікам. Недалёка тырчэла і пустая бутэлька кастухі[7].

Перавага фантазіі п'янюгі над вясковым прагматызмам ашаламляе.

— Настусю, пазычце бутэльку гарэлкі, карову маю здула. Вунь фельчар прые-

☞ *Працяг на стар. 3*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Што ёсць сённяшняя Беларусь у разуменні тых, хто кіруе дзяржавай, перш за ўсё ўрадавымі чыноўнікамі ды большасцю дэпутатаў? Вазміце любы сур'ёзны дакумент, што выйшаў з будынка, дзе месціцца ўрад і вам адразу кінецца ў вочы адсутнасць у ім слоў „дзяржава" ці „краіна", калі гаворка ідзе пра Беларусь. І гэта не выпадкова. Людзі, якія ўчора кіравалі „савецкай сацыялістычнай рэспублікай" як рэгіёнам вялікай імперыі, відаць не здольныя ўсвядоміць, што жывуць ужо ў незалежнай краіне. Беларусь для іх толькі „наша рэспубліка". Дзяржавай кіруюць тыя, хто не жадае гэтай дзяржавы.*

*(Беларусь, н-р 4)*

Яшчэ адна, незвычайная ў свеце, прыкмета беларускай дзяржаўнасці.

* * *

*W stosunku do Białostocczyzny określenie „pogranicze" wydaje się mocno naciągane. Białostocczyzna w powojennej Polsce uchodziła za ziemię egzotyczną. Prawdziwą erupcję popularności przeżyła jednak dopiero w 1989 r., kiedy to reszta kraju odkryła tu prawosławie i Białorusinów.*

*Gdy ktoś w naszym przypadku mówi o przenikaniu kultur, warto zapytać — jakich? Od dawna panuje tu ogólnopolska kultura telewizyjna. Mieszkańcy wsi napływający do Białegostoku chętnie odrzucali swoją wiejskość dla wątpliwej miejskości, ale o żadnych wpływach kulturowych nie może być mowy. Nie znalazły one wyrazu w żadnym znaczącym ruchu literackim czy w ogóle twórczym. Jeden Edward Redliński o niczym nie świadczy. Gdzież więc są te przenikające kultury?* — піша Ян Анішчук.

*(Kurier Poranny, nr 94)*

Аўтар гэтых радкоў прадстаўляе сабой класічны тып псіхалогіі беластоцкага памежжа, прадукт масавай тэлевізійнай культуры. Хаця чуў ён нешта пра Радлінскага, то ўжо пра „Белавежу" нават яму і не снілася. Тэлевізійная культура спаткала ў яго асобе чыстую форму, якую без праблемаў напоўніла сваім зместам. Выглядае на тое, што быў гэта акурат змест, які адлюстроўваў вартасці геркаўскай эпохі.

* * *

*Zgodnie z uchwałą Rady Miejskiej Białegostoku, prezydent miasta będzie zarabiał 20 milionów złotych, wiceprezydenci po 18,5 mln., a pozostali członkowie Zarządu Miasta po 13,5 mln.*

*(Gazeta Współczesna, nr 93)*

* * *

*Od czasu przywrócenia Ordynariatu Polowego nastąpiło moralne odrodzenie Wojska Polskiego.*

*(Wprost, nr 19)*

Новыя палітычныя афіцэры — як аказваецца — лепш разумеюць ўзброеную моладзь, чым старыя палітрукі.

* * *

*Z Białorusi do Polski wydalono posiadającego polskie i kanadyjskie obywatelstwo Aleksandra Pruszyńskiego, który zamierzał kandydować na prezydenta. W Polsce będzie miał szansę, bo z Kanady.*

*(Polityka, nr 20)*

* * *

*Колькі этнічна беларускіх земляў адабраў у нас і аддаў суседзям крывавы крамлёўскі тыран! А колькі беларусаў пасля вайны выехала з Беларусі! А колькі вывезлі гвалтам! Мільён? Ці нават з гакам? Затое — колькі панаехала за той жа час рознага народу да нас, каб пазаймаць тут пасады і папераводзіць усе ўстановы і школы з беларускай мовы на рускую!*

*(Голас Радзімы, н-р 17)*

* * *

*Cieszę się, że zawalił się komunistyczny reżim, z drugiej strony nasze lenistwo, lekceważenie prawa, typowo rosyjskie — wróżą krajowi jak najgorzej. Rosja potrzebuje silnej władzy, ale silna władza łatwo może przekształcić się w tyranię. Nie wierzę w rosyjskie społeczeństwo, ono jest niereformowalne* — сказаў Булат Акуджава.

*(Rzeczpospolita, nr 111)*

* * *

*Чаму кухаркі не могуць кіраваць дзяржавай?* — адказаў на гэтае пытанне шукае газета

*Звязда (н-р 90).*

* * *

*„Solidarność" sądzi, że leninowska kucharka może rządzić państwem.*

*(Polityka, nr 19)*

Аказваецца, што ленінскія прынцыпы — вечна жывыя.

* * *

*Пить можно — гнать нельзя* — заяўляе

*Вечерний Минск (н-р 97).*

* * *

*Nawet obyci ze światem Amerykanie i Kanadyjczycy postrzegali Polaków jako ludzi mówiących po rosyjsku.*

*(Rzeczpospolita, nr 109)*

**Праўдзівей было б:** myślących po rosyjsku.

* * *

*Wyrzucanie z pracy w telewizji dziewczyn za to, że są młode i ładne, stało się kryterium doboru kadr i awansu w tej instytucji.*

*(Nie, nr 18)*

Нам таксама здаецца, што шкада маладых і прыгожых дзяўчат для гэтай фірмы. Нуда, якая сцякае з блакітных экранаў, пазбаўляе іх усяе прыгажосці. Вельмі слушную палітыку вядзе спадар Валендзяк і нейкі Бэндэр, прымаючы на працу ў тэлебачанні штораз больш ксяндзоў і манахаў. Мы — гледачы — на шчасце маем магчымасць выключыць апарат у любы момант. І не трэба, шаноўныя спадарыні і спадары, калі нейкая праграма давядзе вас да адчаю, кідаць у напрамку экрана хатнім абуткам — хопіць спакойна выключыць тэлевізар.

* * *

*Кандыдат на прэзідэнта Беларусі Аляксандр Лукашэнка падчас сустрэчы ў Гродне з палякамі паабяцаў ім, што ўсе 330 тысяч палякаў вобласці будуць хадзіць у польскія школы, калі яго выбяруць прэзідэнтам.*

*(Свабода, н-р 15)*

Цікава, што сталася б, калі б такую думку наконт беларускіх школ на Беласточчыне выказаў кандыдат на пост прэзідэнта Рэчыпаспалітай?

## З мінулага тыдня

**Новы закон аб друку** даручана распрацаваць створанаму ў Міністэрстве культуры і мастацтва калектыву, які ўзначаліў праф. **Богдан Міхальскі** з Варшаўскага універсітэта. Дапамагаць яму будзе спецыяльная падкамісія, вылучана з сеймавай Камісіі культуры і сродкаў масавай інфармацыі.

**Дэлегацыя Таварыства цыганоў** са старшынёю Галоўнага праўлення **Анджэем Міргай** на чале была прынята прэм'ер-міністрам **Вальдэмарам Паўлякам.** Сустрэча адбылася з нагоды 50 гадавіны вынішчэння 20 тысяч цыганоў з усёй Еўропы ў канцэнтрацыйным лагеры Аўшвіц-Біркенаў. А. Мірга ўручыў прэм'еру Кнігу памяці з прозвішчамі ўсіх загінуўшых у гэтым канцлагеры цыганоў і запрасіў яго на святкаванні ўгодкаў у Асвенцім у жніўні гэтага года.

**У Таліне** адбылося пленарнае пасяджэнне Рады краін Балтыйскага мора. Упершыню ў гісторыі Эстоніі з'ехаліся сюды ўсе міністры замежных спраў балтыйскіх краін: Польшчы, Нямеччыны, Расеі, Швецыі, Фінляндыі, Даніі, Літвы, Латвіі. Былі таксама прадстаўнікі Еўрапейскай уніі і шэф знешнепалітычнага ведамства Нарвегіі. Рада — гэта кансультацыйны форум, які каардынуе гаспадарчае і палітычнае супрацоўніцтва краін гэтага рэгіёна.

**СОФТБАНК** — самы вялікі пастаўшчык банкавай камп'ютэрнай тэхнікі ў Польшчы, распрацаваў для беларускага Ашчаднага банка сістэму безнаяўных разлікаў, якая дазваляе рабіць пакупкі пры дапамозе магнітных карт. Камп'ютэрную сістэму ўстаноўлена ў Жодзіна і ў Наваполацку. Пасля прывядзення сістэмы ў рух СОФТБАНК заключыў кантракт на распрацоўку тэхналагічнага праекта сістэмы безнаяўных разлікаў па тэрыторыі ўсёй Беларусі.

**У Варшаве адбылася экуменічная сустрэча** Каталіцкай, Праваслаўнай і Пратэстанцкай цэркваў. Пасля набажэнства, папярэджанага хрэсным ходам, адбыліся канцэрт і агапа — супольная вячэра. Арганізатарамі мерапрыемства выступілі Варшаўскае аддзяленне Польскай экуменічнай рады, а таксама **Ніна Смоляж і Януш Багуцкі** — заснавальнікі Экуменічнага кляштара мастацтва „Ашрам Анавім".

**У Гарадской управе** ў Беластоку адбыліся перамовы прадстаўнікоў тэлекампаніі **ПОЛСАТ** з уладамі горада наконт устанаўлення ў Беластоку перадатчыка праграм гэтай станцыі. Перадатчык мяркуецца ўстанавіць на даху будынка Управы, аднак, апошняе слова будзе за экспертамі, якія вывучаюць праблему.

**Беластоцкая Кураторыя асветы** ў рапарце, перасланым Міністэрству нацыянальнай адукацыі, паінфармавала аб добрых баках супрацоўніцтва з самаўрадамі. З вопыту Кураторыі вынікае, што гміны рацыянальна выкарыстоўваюць прызначаныя на асвету грошы. У школах, якія знаходзяцца ў распараджэнні самаўрадаў, у адрозненне ад куратарыйных, вядуцца за кошт гміны пазаўрочныя заняткі і больш спраўна праводзяцца рамонты будынкаў.

**Памятай Беласток** — так называецца імпрэза, якая адбываецца ў нашым горадзе кожны год. Яе госці — ўраджэнцы Беластока, якіх лёс раскінуў па ўсёй краіне і свеце. Сёлета ў праграме імпрэзы значацца выставы, конкурсы, кірмашы і спаборніцтвы, а на заканчэнне адбудзецца канцэрт беластоцкіх філармонікаў перад Драматычным тэатрам. Усё гэта будзе 11 чэрвеня.

**Спыніўся рух на чыгуначнай лініі Ляўкі — Гайнаўка.** Рашэнне аб ліквідацыі чыгуначнага транспарту ў гэтым раёне было прынята чыгуначнымі ўладамі ў Седльцах, якія тлумачаць гэты факт нястачай грошай на рамонт палатна рэйкавай дарогі.

**За рысай беднасці** апынуліся 60 прац. рэспандэнтаў красавіцкага апытання, праведзенага цэнтрам даследавання грамадскай думкі CBOS. Да ўбоства прызналіся 23 прац. апытаных — у іх гаспадарках месячны даход складае ўсяго 750 тысяч зл. на душу. Амаль палова апытаных жывуць з дня на дзень, без фінансавых рэсурсаў. На думку рэспандэнтаў, каб заспакоіць неабходныя патрэбы, сям'я з чатырох чалавек павінна атрымаць 9,5 млн. зл. Сярэдні заробак на асобу склаў у апытаных 1,8 млн. і роўны ён сацыяльнаму мінімуму.

**У некаторых беластоцкіх гасцініцах і рэстаранах** наведвальнікі могуць бясплатна атрымаць кандомы. Гэтую акцыю з мэтай прывучыць беластачан карыстацца засцерагальнымі сродкамі праводзіць арганізацыя "Монар".

## Праз тыдзень у „Ніве"

- „Усходняя сцяна" рыхтуецца да выбараў.
- Яўген Вапа, БАС і Сакрат Яновіч.
- Садом і Гамора на чыгунцы.
- Яшчэ раз пра „прарока" Ільлю.

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Сесія адтэрмінаваная

Адкрыццё чарговай сесіі Вярхоўнага Савета было адтэрмінавана. Дэпутаты прыйшлі да высновы, што напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў вырашаць якія-небудзь пытанні на ёй будзе вельмі праблематычна. Гэта пацвердзіла і нядаўняя нечарговая сустрэча народных дэпутатаў, калі высокая трыбуна парламента выкарыстоўвалася для перадвыбарнай агітацыі і ўзаемнага аблівання брудам прыхільнікаў розных кандыдатаў. І ў сувязі з гэтым наступная сесія парламента адбудзецца не раней як 10 жніўня. Тым больш для яе будзе важная прычына — прыняцце першым прэзідэнтам прысягі на вернасць радзіме.

### Адмова пад умовай

Аляксандр Лукашэнка заявіў, што ён можа адмовіцца ад далейшай барацьбы за пасаду прэзідэнта Беларусі. Аднак гэтае адбудзецца толькі ў тым выпадку, калі ад займаемых пасадаў будуць вызвалены больш за 70 прадстаўнікоў органаў дзяржаўнай улады і кіравання, кампраметуючыя матэрыялы на якіх знаходзяцца ў антыкарупцыйнай камісіі, якую ён узначальвае.

### Сенсацыйная заява

Старшыня антыкарупцыйнай камісіі ВС Аляксандр Лукашэнка заявіў, што ў КДБ рэспублікі знаходзіцца відэазапіс, на якім зафіксаваныя непасрэдныя кантакты цяперашняга спікера парламента, а на момант запісу гэтых відэаматэрыялаў старшыні парламенцкай камісіі Мечыслава Грыба і ўрадавага сакратара Генадзя Данілава з прадстаўнікамі мафіёзных структур. Гэты відэазапіс быў зроблены ў 1993 г. пры кантраляванні дзвюх мафіёзных структур у Менску. „Справа не ў тым, што нехта сачыў за Грыбам і Данілавым. Яны выпадкова апынуліся ў кадры, — сказаў А. Лукашэнка. — Грыб размаўляе з імі, стоячы навыцяжку па стойцы „смірна". Лукашэнка звярнуўся ў кіраўніцтва КДБ з просьбай паказаць гэты відэазапіс шырокай аўдыторыі. Старшыня антыкарупцыйнай камісіі паведаміў: „Праслухоўваючы, згодна закону, тэлефонныя размовы прадстаўнікоў мафіі, спецслужбы зафіксавалі, што ў размову ўклініўся Мечыслаў Грыб, тады старшыня камісіі ВС па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю. Ад яго ў прыватнасці патрабавалі зняць знешняе назіранне, якое за гэтымі прадстаўнікамі мафіі вялі праваахоўныя органы. Грыб паабяцаў гэта зрабіць". Аляксандр Лукашэнка не выключае, што кантакты Грыба з прадстаўнікамі мафіі працягваюцца і зараз. Запэўніў ён, што калі яму не будуць перашкаджаць, то яго работа ў дачыненні да старшыні Вярхоўнага Савета будзе працягнута.

### Аптымістычная няўдача

Адным з тых, каго спасцігла няўдача ў кампаніі па збору подпісаў за вылучэнне ў кандыдаты на пост прэзідэнта Беларусі, стаў лідэр Польскага дэмакратычнага аб'яднання Эдвард Ахрэм. Заявіў ён наступнае: „Я не засмучаны вынікамі па збору подпісаў, хоць ініцыятыўная група магла б справіцца з пастаўленай задачай. Думаю, што на цяперашнія выбары не прыйдзе неабходная колькасць выбаршчыкаў, гэта значыць 50% ад спісачнага складу. Таму мы ўжо зараз рыхтуемся да новага этапу перадвыбарнай барацьбы, ну а атрыманы вялікі вопыт дазволіць пазбегнуць старых памылак".

### Візіт шэфа НІК

У Менску прабывала з візітам дэлегацыя Вышэйшай палаты кантролю (НІК) на чале са старшынёю Лехам Качынскім. У ходзе трохдзённай пабыўкі шэф НІК сустрэўся са старшынёю Кантрольнай палаты Беларусі Васілём Саковічам. Было таксама падпісана пагадненне аб супрацоўніцтве паміж вышэйшымі кантрольнымі палатамі Польшчы і Беларусі.

### Адукацыйнае пагадненне

Падпісана пагадненне аб супрацоўніцтве паміж Міністэрствам адукацыі Беларусі і Міністэрствам нацыянальнай адукацыі Польшчы на 1994/1995 гады. Гэты дакумент павінен стаць падставай для ўмацавання гістарычных сувязей, развіцця добрасуседскіх традыцый, сяброўскіх кантактаў паміж славянскімі народамі. У мэтах рэалізацыі гэтага пагаднення абодва бакі распрацавалі план супрацоўніцтва на 1994/1995 гады.

### Новая кніга

У Нацыянальнай бібліятэцы ў Менску была прадстаўлена новая кніга вядомага беларускага гісторыка Міколы Ермаловіча „Старажытная Беларусь. Віленскі перыяд", выдадзеная менскім выдавецкім цэнтрам „Бацькаўшчына". Гэта ўжо другая кніга ў гістарычнай серыі М. Ермаловіча.

### Ветэраны супраць сімволікі

З просьбай тэрмінова сабраць чарговую сесію Вярхоўнага Савета звярнуўся „Рух за дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасць". У афіцыйным пісьме ў якасці прычыны склікання сесіі названа страшэнная супярэчнасць цяперашняй нацыянальнай дзяржаўнай сімволікі Беларусі з маючым адбыцца святкаваннем 50-годдзя вызвалення рэспублікі ад фашысцкіх захопнікаў. „Неабходна змяніць дзеючую дзяржаўную сімволіку, — пішацца ў прашэнні, — якая зневажае памяць загінуўшых і памяць жывых удзельнікаў Айчыннай вайны, паколькі выкарыстоўвалася яна мясцовымі памагатымі акупантаў".

# КРЫЖОВЫ ПАХОД

За некалькі дзён да алімпіяды ў Ліліхамеры падчас спаборніцтваў гарналыжніц па скорасным спуску ў Гарміш-Партэнкірхене спатыкнулася і наляцела на слупак з часамерам аўстрыйская спартсменка Ульрыка Маер — адна з найлепшых у свеце. Разбітае цела кацілася яшчэ некалькі дзесяткаў метраў, а калі затрымалася, было адразу загружана ў верталёт хуткай дапамогі і дастаўлена ў бальніцу. Жыцця маладой жанчыне ўратаваць аднак не ўдалося.

Некалькі тыдняў таму на спаборніцтвах гоначных аўтамабіляў у Сан-Марына ў адзін дзень забіўся аўстрыйскі дэбютант гэтых гонак, а дзень пазней адправіўся на той свет сам чэмпіён свету Аіртан Сена з Бразіліі.

Ды не толькі на гоначных дарожках свядомыя рызыкі змагары з часам адпраўляюцца на той свет. Зусім нядаўна, дзесь пад Гданьскам, загінула на звычайнай дарозе больш за 30 пасажыраў аўтобуса. Даведваемся мы, ці то з газет, ці то з эфіру пра катастрофы, якіх ахвярамі сталі або вельмі вядомыя адзінкі, або вельмі вялікая колькасць людзей, менш славутых. Мясцовымі, невялікімі па размеру, трагедыямі вялікі свет не цікавіцца. Складаецца такое ўражанне, быццам бы іх і зусім не было. Бо, здаецца, што ж можа здарыцца дзесьці на канцы свету, на гравійных дарогах, па якіх жыхары вёскі, пакідаючы свае гнёзды дажджам і ветрам, ад'ехалі ў гарадскія мурашнікі. Апусцелыя вясковыя дарогі, якія, здавалася б, дрэмлюць сярод забытых лясоў і кустоў, не павінны, на першы погляд, скрываць ніякай небяспекі. Не такая, аднак, з гэтым простая справа: сонныя дарогі ўсыпляюць шафёраў не толькі падчас язды, але яшчэ і перад яздою, калі бестурботныя шафёры адурманьваюць сябе, быццам бы не выбіраліся ў дарогу, а ў ложак. Аб небяспецы нашых дарог можна пераканацца прыглянуўшыся ім.

Возьмем для прыкладу дарогу з Нараўкі ў Скупава. На ёй тры павароты: на двух з іх стаяць крыжы ў памяць загінуўшых там людзей. На трэцім крыжа няма, але расло там калісь буйнае дрэва. Каля трыццаці гадоў таму два мужчыны на „мацыклеце" адправіліся па гэтым дрэве на той свет. Дрэва зрэзалі за тое, што стаяла на дарозе п'янаму матацыклісту. На другой дарозе з Нараўкі ў Сухадолы, нейкіх дзесяць гадоў таму, на першым за Нараўкай павароце, загінуў малады пасажыр аўтамабіля. На месцы трагедыі маці юнака паставіла крыж, а дарожная працаўнікі паставілі знак абмежавання хуткасці. Пастаяў гэты знак пару гадоў і прапаў. Відаць, дарожнікі ставяць яго тады, калі здарыцца няшчасце і сочаць, што далей будзе. Калі нейкі час катастрофы не здараюцца, знак абмежавання хуткасці можна зняць, быццам бы яго задачай было ўпрыгожанне краявіду, а не прадухіленне трагедыі.

Няшчасці, як і людзі, сходзяцца і расходзяцца. Спамянутыя дзве трагедыі лёс сутыкнуў некалькі дзён таму. Сын загінуўшага пасажыра матацыкла і маці загінуўшага пасажыра аўтамабіля на восені гадоў сваіх, аўдавеўшы, звялі свае жыццёвыя шляхі, каб не караталь дзён сваіх у адзіноцтве. У адну нядзельную раніцу выбраліся яны з дому на матавеласіпедзе. Выязджаючы на гравійку трапілі яны проста пад праязджаючую акурат у той час і ў тым месцы "ладу". І ў тую ж хвіліну іх жыццёвыя дарогі рэзка разышліся. Мужчыну, які кіраваў матавеласіпедам, нічога сур'ёзнага не сталася, затое амаль уся энергія машыны абрушылася на пасажырку, смяротна яе раніўшы.

Пры выездзе з Васількава ў Саколку стаяць побач сябе тры крыжы. Нейкіх тры гады таму п'яны шафёр наехаў аўтамабілем на калону паломнікаў, забіваючы трох вандроўнікаў. Куды яму спяшалася? Каму ён, п'яны, быў так пільна патрэбны?

На пятнаццацікіламетровым адрэзку пакручастай дарогі з Саколкі ў Янаў стаіць на паваротах бадай аж адзінаццаць крыжоў. Завяршыўшы барышом адну справу, энергічныя дзякі ірвануліся афармяць наступныя.

Па нашых гравійных дарогах аўтамабілі ездзяць з хуткасцю наогул не меншай чым 70 км у гадзіну.

Яшчэ не так даўно нашыя продкі ставілі крыжы на ростанях дарог, каб засцерагчыся ад ліха, якое там цікавала на адзінокіх падарожнікаў. Сёння паявілася новае ліха — дэман хуткасці, які бушуе не толькі на ростанях, але і па ўсёй дарозе. Следам за ім рушылі на дарогу крыжы.

**А. ВЯРБІЦКІ**

# Мора народнага гора

☛ Працяг са стар. 1

хаў. Сказаў, калі ўліць ёй паўлітэрку, адыдзе, — тлумачыла Зоська з В. сваёй суседцы. Насця выглянула ў вакно — праўда, фельчарава машына стаіць на вуліцы. Дала бутэльку, у бядзе ж дапамагчы трэба.

Зося яшчэ абышла тры хаты, дзе спагадалі лёсу ейнай каровы. Пазней толькі выявілася, што фельчар заехаў у В. усяго наведаць шваґра.

Дзінатура[1] — гэта акраёк чалавечай вынаходлівасці.

Калі ў той жа В. малачаром стаў малады хлапец, у малачарню пачалі зносіць больш дзінатуры, чым малака. Калі гранатовая[2] кончылася, недапітая кампанія ставіла на стол слоік *генерала ярузельскага* (чытачу належыцца тут пояснение, што так у некаторых вёсках завуць квас ружовага колеру, якім прабуецца малако на працэнт тлустасці; называюць яго так з-за цяжкасці ў вымаўленні фахавай назвы). Коля з В., самы элегантны кавалер у кампаніі (не ўсікаўся, запіўшыся) пасля *ярузельскага* выходзіў за вугал малачарні. Іншыя ляжалі, бы гусі макавінаў наеўшыся. Некаторыя жыхары В. гатовыя прысягаць, што бачылі, як цэгла крышыцца ад Коліных сікаў.

Безнадзейная дыскусія за алкаголем прыводзіць да страшнага канца.

Жоржык усё свята шпарыў самагонку. Паслясвяточны перапой прымусіў яго сягнуць па спрактыкаваны чарнобыль[3]. Выпіўшы паўбутэлькі сінюхі, Жоржык згубіў два дні жыцця. Ачнуўшыся, мроіў далей. Адлупцаваў жонку, бо нарадзіла тры дачкі. Яна з дзеткамі дала ў лес. Жоржык сеў на ровар з намерам зарэзаць цесця за такую бабу. Той прадчуў бяду і ў час даў драла. Жоржык пабіў прыгрозы напатканага. Вярнуўся ў хату... Праз вёску ехала якраз хуткая дапамога да паміраючага дзядзькі. Машына завязла ў балоце насупраць Жоржыкавай хаты. Санітар падаўся туды за дапамогай... Жоржык дапіваў рэшту з бутэлькі, размаўляючы з сядзеўшым у куце чортам. Раптам, быццам згледзеў свайго цесця ў дзвярах. Інстынктыўна кінуўся на яго з нажом... Хуткая дапамога павезла замест паміраючага пенсіянера — параненага санітара.

Дзінатура выяўляе ў чалавеку засакрэчаныя пажадлівасці. Пракоп з В. калоў свіней. Быў спецам па гэтай рабоце. У В. наймаў яго кожны, хто не меў да гэтай справы здольнасцяў. Аднаго разу Пракоп паспрачаўся за чаркай з аднавяскоўцам. Вынікла бойка. Пракоп сунуў працінніка сваім свінскім ножыкам з доўгім і вузенькім лязом. З тае пары страціў Пракоп усякую пашану сярод людзей — не трапіў працінніку ў сэрца. Да таго стаў піць дзінатуру, што запіўся да смерці (клінічнай). Закапалі яго па шыю ў зямлю — каб адцягнула. Адцягнуць адцягнула, але ж дзінатуру Пракоп не кінуў. Зноў запіўся, закалоў сабаку, падпаліў хату і павесіўся.

Усе вышэйпрыведзеныя прыклады сапраўдныя, а магчымая іх сыходнасць з рэальнымі асобамі і абставінамі невыпадковая. У тэксце зменены толькі імёны герояў.

**ГАННА КАНДРАЦЮК**
**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

---

1,3,4,7-9 — (*разм.*) дэнатурат.
2 — алкагольная росчына на этапе шумавання.
5 — алкаголь пачатковага спуску (фракцыі), моцаю ў 70-90 градусаў.
6 — частка апарата; медная трубка ў форме спіралі, якую ўжываецца дляператварэння алкагольнай пары ў вадкасць.

# ГРАБАЎСКАЯ ДАЎНІНА

У вёсцы Грабавец (цяпер яна ў гміне Дубічы-Царкоўныя) у 1660 годзе існавала школа з беларускай мовай навучання. Першыя пасяленцы прыбылі сто гадоў раней — каля 1560 года. Першапачатковa паселішча называлася Абыходнік (ёсць рукапіс з 1570 года), а пасля Абыходнік і Грабавец (1616 год). Паводле люстрацыі Падляшскага ваяводства, праведзенага ў 1661—1664 гадах, у Грабаўцы было 144 дамы і пражывала 623 чалавекі. Вёска мела 60-валокавы надзел. Падчас наезду шведаў была яна амаль поўнасцю знішчана, пасля другі раз заселена. З XVII стагоддзя паншчыну сяляне адраблялі ў Фальварку Чэхі.

У 1790 годзе ў Грабаўцы было 68 дамоў. У 1900 годзе вёска налічвае 48 дамоў і 406 жыхароў (195 мужчын і 211 жанчын).

У 1887 годзе ў Грабаўцы працавала царкоўна-прыхадская школа. 1899 годзе у ёй граматы навучалася 16 юнакоў і 16 дзяўчат.

У 1915 годзе частка жыхароў падалася ў бежанства ў Расію. Пасля некалькіх гадоў яны вярнуліся.

У гады першай сусветнай вайны існавала тут беларуская народная школа. У 1917—1919 гадах настаўнічала ў ёй Вера Матэйчук. Захаваўся здымак настаўніцы з 38 вучнямі.

**(ЯЦ)**

# НОВЫЯ ГАНДЛЁВЫЯ КРОПКІ

У Бельску-Падляшскім па вуліцы Міцкевіча знаходзяцца цяпер дзве крамы са „здаровай ежай", г.зн. садавінай і гароднінай, вырошчанымі без штучных угнаенняў і апырскаў. На рынку навінка — можна купіць з бочкі квашаныя гуркі і капусту.

У Гайнаўцы па вуліцы 3 Мая, у будынку, дзе раней была дамская цырульня, можна купіць модную вопратку, а цырульня перанесена на вул. Паркову.

І ў Гайнаўцы, і ў Бельску не відна ўжо жабруючых румынскіх цыганоў.

У Свінарэях у Нараўчанскай гміне адкрылі прыватны спажывецкі шапік. У Збучы Чыжоўскай гміны, каля шашы з Гайнаўкі ў Бельск закончылі ўжо пабудову аўтазаправачнай станцыі.

**АЎРОРА**

# Яднацца, абавязкова!

Разумна гаворыць народная прымаўка: не шукай поля ўрадлівага, а суседа зычлівага. Добры сусед заўсёды з'яўляецца вялікім дарам. Кепска сталася, што ў „Нівы" такі нядобразычлівы і нацыяналістычны сусед — „Салідарнасць", якая з нічога зрабіла дзікі крык і істэрыку.

У свой час я таксама з галавы да ног выхваляў „Салідарнасць", як новую сілу, якая з каранямі мела павырываць усякае зло і нянавісць. Пахваліў я і, відаць, паспяшаўся.

Я, як беларус, з пашанаю стаўлюся да ўсіх грамадзян гэтай краіны. Падтрымліваю ў ёй усе разумныя перамены, якія адбыліся ў апошнія гады. Чужымі мне аднак пагарда і нацыянальная нянавісць. Словы гэтыя, пэўна, застануцца пустымі, таму ў мяне прапанова — шукаць новае месца для рэдакцыі „Нівы". Найлепш было б на вуліцы Варшаўскай, дзе знаходзіцца Галоўнае праўленне БГКТ. Месца там дастаткова для ўсіх. А тое, што калісьці вяліся спрэчкі за камп'ютэры і іншыя справы — трэба адкінуць набок ды працягнуць адзін аднаму руку. Дзе двух дзяруцца, там трэці карыстае. Мы, беларусы, павінны дамовіцца між сабою і быць разам.

Што ж, калі б кожны беларус Беласточчыны выдзеліў са свайго бюджэту якіхсьці 100 тысяч злотых на новае памяшканне для „Нівы", справе быў бы канец. Але гэта толькі мары. Наша месца — быць разам.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

# ВЫБАРЫ Ў БЕЛЬСКУ

„Бельская кааліцыя", створаная з Беларускага выбарчага камітэта, Саюза левых дэмакратаў, Уніі працы і Саюза ўкраінцаў Падляшша да выбараў ідзе пад лозунгам: *Больш разумна, згодна, справядліва!*

Кааліцыя выставіла сваіх кандыдатаў на радных ва ўсіх 28 выбарчых акругах, з чаго для Беларускага выбарчага камітэта прыпала дзесяць. Беларускімі кандыдатамі, як паінфармаваў нас старшыня БВК Андрэй Сцепанюк, з'яўляюцца:

**Арсень Артысевіч** — інжынер-механік,
**Юрка Баена** — настаўнік, старшыня Бельскага аддзела ЗНП,
**Аляксандр Божка** — эканаміст, кіраўнік спартыўнага клуба „Тур",
**Мікалай Вязоўскі** — настаўнік, намеснік дырэктара Пачатковай школы н-р 3,
**Славамір Іванюк** — архівіст, журналіст „Часопіса",
**Валянцін Лапцеў** — камерсант, уласнік крамы,
**Сяргей Лукашук** — дырэктар Бельскага дома культуры, кіраўнік калектыву „Маланка",
**Васіль Ляшчынскі** — настаўнік, дырэктар Пачатковай школы н-р 3,
**Уладзімір Сац** — лекар,
**Мікалай Юрчук** — інжынер-меліяратар.

**ак**

# АБ ЧАРОМХАЎСКАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ

**Расказвае загадчыца Гмінная бібліятэкі ў Чаромсе ЛЮЦЫНА ВЫСОЦКАЯ:**

— Па прафесіі я бібліятэкар і працавала ў Чаромсе пачала ў 1984 годзе. Наша бібліятэка змяшчаецца ў памяшканні Гміннага асяродка культуры і зараз у ёй 16 тысяч кніжак. Аддзел беларускай літаратуры налічвае больш за сто тамоў. Нашым кнігазборам карыстаецца 531 чытач, а палову гэтага ліку складае школьная моладзь. На тэрыторыі гміны працуе яшчэ два філіяльныя пункты. У Апацы для 21 чытача пункт вядзе Марыя Саўчук. Кожны тры месяцы мяняем набор кніжак у філіялах. Другі пункт — у Шпалапрапітачным заводзе — ужо пяць гадоў вядзе Галіна Рожук.

*— Чым цікавяцца вашы чытачы?*

— Гэта залежыць ад мясцовасці. У Апацы, напрыклад, чытачы аддаюць перавагу ваеннай літаратуры. А ў нас, у Чаромсе, жанчыны захапляюцца любоўнымі раманамі, а мужчыны палічылі за лепшыя фантастыку і дэтэктывы.

*— Ці можаце назваць самых актыўных чытачоў?*

— Да іх ліку трэба ўключыць Софію Тарасюк, Юрку Заборскага і Тамаша Сасноўскага. Гэта наш авангард.

*— А ці ёсць у вас клопаты?*

— Самая вялікая праблема — гэта нястача грошай на закупку кніжак. І кніжкі таксама сталі дарагія. Асноўны фонд (свой і кніжкі, якія мы атрымалі ад чытачоў — 3 530 тамоў) — гэта кніжкі старыя, ужо прачытаныя. На розныя спосабы стараемся вырашыць праблему, але гмінныя фонды вельмі сціплыя...

*— Жадаю вам адолець клопаты. Дзякую за размову.*

Гутарыў
**УЛАДЗІМІР СІДАРУК**

# ПРЭСА НА ПАМЕЖЖЫ

Няўдачай скончылася сустрэча прадстаўнікоў рэдакцый газет, што выходзяць у нашым рэгіёне, арганізаваная праф. Андрэем Садоўскім у рамках ягонага семінара. На маю думку, няўдача гэтая мае дзве прычыны.

Першая заключаецца ў самым спосабе правядзення семінара. Не хапіла ўводнага даклада, які прадстаўляў бы вынікі даследаванняў беластоцкай прэсы адносна прысутнасці ў ёй этнічнай і рэлігійнай праблематыкі ды ўспрымання яе чытачамі. Не замясціла яго надта ж агульнае ўводнае слова праф. А. Садоўскага.

Другой прычынай з'яўляюцца адносіны да згаданай праблематыкі саміх журналістаў, з якіх частка выказвалася за абавязак уплывання на чытача, а другая рэзка падобныя думкі адкідвала. Самы крайні погляд выказаў рэд. Ян Аніщчук з „Кур'ера Паранная". Паводле яго, цяперашняя прэса, як камерцыйная, мае зарабляць грошы. Такім чынам, яна мусіць адлюстроўваць зацікаўленасць тых, што яе купляюць, а справы памежжа цікавяць людзей толькі тады, калі выбухае канфлікт. Крыху інакш прабаваў апраўдаць адсутнасць згаданай тэматыкі на калонках тутэйшых газет галоўны рэдактар „Газеты Всполудневай" К. Палінскі. На яго погляд, так мала людзей чытае газеты, што яны ніяк не могуць уплываць на грамадства і хопіць, калі памяшчаюць аб'ектыўныя інфармацыі.

Так ці інакш, пра праблемы памежжа (значыцца, пра нас) газеты наогул не пішуць. Ветэран беластоцкай журналістыкі, рэд. Мар'ян Вісьнеўскі, заўважыў, што ў часы ПНР праблематыка памежжа не выступала, бо беларускай і праваслаўнай тэматыкі ўлады баяліся. На кожны артыкул на гэту тэму патрэбен быў дазвол недзе з верху. Сёння дазволу быццам і не трэба, але этнічная праблематыка надалей адсутнічае на старонках тутэйшага друку. Пішуць толькі аб татарах, бо іх мала.

Паколькі адказаў на дакор, што газеты пра згаданыя праблемы не пішуць, практычна не было, дазволю сабе на некалькі заўваг.

Многія прысутныя сцвярджалі, што жывучы ў Беластоку зусім не адчуваюць, каб жылі на нейкім памежжы. Для іх Беласток гэта самы звычайны польскі горад і такім ён з'яўляецца штодзень на калонках тутэйшага друку. Раз у год недзе нешта трэсне, і тады толькі заўважаюць, што тут жывуць і іншыя.

Думаю, няма сэнсу дакараць у тым журналістаў. Яны такія, як грамадства, якое іх выдала. А тутэйшае грамадства пра ніякае памежжа чуць не хоча. Адзін мой знаёмы журналіст пачаў крыху палахліва ставіцца да беларускіх тэмаў з часу, як швагер пагрозліва спытаўся яго за сямейным сталом: „A co ty tak często o tych Białorusinach piszesz?"

Тутэйшы паляк, праўда, зусім іншы, чымсьці, скажам, галічанін. Ё навет, падхмяліўшыся, „рускую" песню запяе. Але гэта ўсё.

Сапраўды, на памежжы жывуць толькі беларусы. Мы, хаця б і не хацелі, мусім ведаць польскую мову. Такім чынам, уся праблематыка памежжа зводзіцца практычна да асіміляцыі беларусаў.

Нашае тут сужыццё з палякамі можна вобразна прадставіць нейк так: жывем у адным памяшканні, але раздзеленым спецыяльнай шыбай, праз якую відаць толькі з аднаго боку. Мы іх бачым, яны нас не бачаць і навет іх не цікавіць, каб заглянуць на той бок.

Усё-такі, нельга вінаваціць ва ўсім толькі палякаў. Яны ж бачаць, як тутэйшы праваслаўны народ прэ ў палякі, дык маюць права думаць, што ў нас нічога цікавага проста няма.

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

# ЯК БНФ АДЗНАЧЫЎ ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ

*З усяго савецкага календара бадай толькі Дзень Перамогі можна лічыць сапраўды народным святам. Мільёны людзей успрымалі яго як сваё, крэўнае, выпакутаванае. Вялікая перамога давала падставы для законнай гордасці. Аднак чым далей адыходзіў у мінулае травень 1945 года, тым болей у святкаваннях чарговых гадавін Перамогі пераважалі афіцыёзнасць, палітычная кан'юнктура (вялікімі стратэгамі абвяшчаліся спачатку Сталін, потым Хрушчоў і нарэшце Брэжнеў). І што найбольш крыўдна — святкаванне Дня Перамогі ператварылася ў шырокамаштабную, агульнадзяржаўную дэманстрацыю комплексу непаўнавартасці савецкага чалавека.*

*Пётра Васілеўскі, „За свабоду і незалежнасць нашай айчыны". („ЛіМ" 18; 6.05.1994 г.)*

**Менск, 9 мая 1994 г.**

Сёлетняе Свята Перамогі ў Менску напэўна не было шыракамаштабным. Чатыры свабодныя ад працы дні (субота, нядзеля, панядзелак — Дзень Перамогі, аўторак — Радаўніца) вымялі жыхароў сталіцы, каго на вёску, каго на дачу. На плошчы Перамогі і вакол яе сабралася не больш дзвюх тысяч народу. Ля вечнага агню кветкі ўскладалі ўлады рэспублікі, замежныя дыпламаты, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, ветэраны.

Асаблівага энтузіязму ані святочнага настрою не наглядалася. Хутчэй завядзёнка. У палітыкаў былі свае разлікі, у сувязі з надыходзячымі прэзідэнцкімі выбарамі. Вельмі праўдападобна, што галаву дзяржавы абяруць якраз пенсіянеры-ветэраны. Яны на выбары пойдуць, хаця б „от нечего делать". Калі ўлічыць іх колькасць і памятаць пра ступень палітызацыі савецкага грамадства то... прэтэндэнтам на прэзідэнцтва лепш было на плошчы Перамогі 9 мая паказацца.

У дзесяць гадзін, са сцягамі і кветкамі, да плошчы Перамогі падышла група сяброў і сімпатыкаў Беларускага народнага фронту „Адраджэнне". Сярод іх ветэраны II сусветнай вайны, а між імі такія асобы як Васіль Быкаў, Аркадзь Вольскі. На дарозе да помніка і агню стала ім аднак шчыльная сцяна амонаўцаў (адпаведнік колішняга польскага ЗОМО). Давай тады група плошчу абыходзіць, але ў другім месцы тое ж — зноў дарогу перакрываюць малойчыкі ў мундзірах колеру хакі, з-пад якіх выглядаюць здаравенныя грудзі ў паласатых матроскіх майках. БНФаўцы чакаюць, а тым часам шнурочак кветкаўскладальнікаў прасоўваецца ля агню. З натоўпу ў бок фронтаўцаў ляцяць словы: „подонки", „фашисты", „чего они здесь"! Ардэнаносныя дзядзькі і залатазубыя цёткі касавурацца на белчырвона-белыя сцягі. Так і здаецца, што калі зараз не абкідаюць іх балотам, то прынамсі аплююць.

У групе маладзейшыя пачынаюць нервавацца: ды чаго нам тут таўчыся, давайце пайшлі адсюль!

Ускладанне кветак канчаецца. Вайсковы аркестр грымнуў: „Мы беларусы з братняю Руссю". А затым „День Победы". Ганаровая рота пад гэтыя гукі прамаршыравала туды-сюды, забралася і пайшла сабе. Гукаўзмацняльнікі адазваліся нейкімі рамансамі, тыпу „Эсаул, эсаул", у якіх надарваныя галасы спявалі пра любоў да матушкі-Расеі, пра змаганне за яе шчасце.

Улады пакінулі плошчу незаўважанымі. Змыліся кудысьці і амонаўцы. Сябры БНФ змаглі ўрэшце падысці да помніка, ад якога і так калолі ў вочы, дзякуючы.... нацыянальным сцягам.

Бо ў рэспубліцы Беларусь для афіцыйнага свята нацыянальных сцягоў не хапіла. На вуліцах Менска былі і чырвоныя, і сінія, і ружовыя, і зялёныя, і жоўтыя — усе колеры і адценні вясёлкі. Адно не злажыліся яны ў на здзіў просты ўзор.

Невядома каго, якую краіну прадстаўлялі прэм'ер-міністр, старшыня Вярхоўнага Савета. З дзяржаўнымі сцягамі выйшла толькі апазіцыйная арганізацыя і то не была дапушчана да ўрачыстасці.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

# Больш і менш роўныя

18 мая 1944 года II Корпус генерала Андэрса ў саставе 8-ай Брытанскай арміі, пасля крывавых баёў, узяў Монтэ-Касіна, адкрываючы саюзнікам-альянтам дарогу на Рым.

50-годдзе бітвы адзначалася вельмі ўрачыста. У Італію паехалі найвышэйшыя ўлады Польскай дзяржавы і Каталіцкага касцёла: прэзідэнт, прэм'ер-міністр, прымас а таксама розныя дэлегацыі ад ветэранаў па гарцэраў. Інфармацыі пра ўрачыстасць на працягу тыдня не сходзілі з першых старонак газет. Тэлебачанне імі пачынала галоўныя выданні навін. Тым не маеш, адна інфармацыя так і не паявілася.

„Przegląd Prawosławny" за месяц май надрукаваў прозвішчы праваслаўных жаўнераў II Корпусу, пахаваных на могілках Монтэ-Касіна (64 асобы) і Ларэта (54 асобы). Пра іх мы не пачулі ні ў тэлебачанні, ані не маглі прачытаць у газетах.

— Праваслаўны ардынарыят Польскага войска, — кажа яго ардынарый архіепіскап Сава, — прыняць удзел у святкаванні ўвогуле не быў запрошаны. Запрашэнне асабіста атрымаў мітрапаліт, якога пад Монтэ-Касіна прадстаўляў айцец Міхал Дудзіч. Так што над магіламі праваслаўных было каму памаліцца. Я гэтыя мясціны, з малітвай, наведаў два гады таму.

— *Ці ў ардынарыяце вядома штосьці пра ўдзел ва ўрачыстасцях праваслаўных ветэранаў?*

— Я прапанаваў, каб ад нас паехалі дзесяць асоб. Але, як выявілася, яны нават сваім ветэранам выезду не забяспечылі. Мы плануем арганізаваць выезд пад Монтэ-Касіна на восень.

У пасланні з нагоды 50 гадавіны бітвы пад Монтэ-Касіна папа Ян Павел II сказаў, між іншым: „Spoczywają tutaj także wasi koledzy: żołnierze i oficerowie noszący nie tylko nazwiska polskie, ale także ukraińskie, białoruskie czy żydowskie". (Gazeta Wyborcza, 21-22.05.1994).

Гэтая праўда, на вялікі жаль, у польскім грамадстве не жыве.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

# З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

**10 лютага 1990 г.**

Устаноўчы Кангрэс Беларускага дэмакратычнага аб'яднання (— замест „Грамады" было нешта каля дзесяці прапаноў варыянтаў назвы гэтай партыі). Прыйшло пад семдзесят чалавек, з Беластока і правінцыі. Выйшаў спецыяльны бюлетэнь „Нашы навіны" (рэдагаваў Максімюк). Дэталі — у друку.

Усё нечаканасці мусяць быць. Дзве — прыемная і непрыемная. Я разлічваў, што з'явіцца не больш сарака зацікаўленых (разам з арганізатарамі). Але, адначасна, прыкра ўразіла прысутнасць групы Зенюкоў на чале з Казаком, былым сакратаром прапаганды ВК ПАРП у Беластоку. Вялі яны сябе карэктна, а іх правадыр выступіў у дыскусіі, агітуючы нас у лагер левых палітычных сілаў (яго выступленне зала прыняла непрыхільна). Былі журналісты з Беластока і з варшаўскай „Gazety Wyborczej", і Клінгер, ідэолаг паразумення з „Салідарнасцяй" (апрацаваў ліст да меншасцяў з подпісамі лідэраў, напр. Гермека). Справа ў тым, што беластоцкія „салідарнікі" далей ігнаруюць існаванне беларусаў як нацыі. Дурні!

Рэзананс ад Кангрэсу будзе немалы: першая палітычная партыя нацыянальнай меншасці!

**15 - 02 - 1990 г.**

Шумеча непраўдападобная! Ад панядзелка — усе тры беластоцкія газеты пішуць пра БДА амаль дзень у дзень (найзаядла „Kurier Poranny"). Вэрхал у тонах сенсацыі; нават варшаўская „Gazeta Wyborcza" (12-га). І па радыё. (...) На працягу літаральна пару сутак увайшло ў шырокую грамадскую свядомасць існаванне беларускай партыі. Умомант сталася яна кампанентам палітычнага пейзажу. Момант добры!

(...) Учора медыкі выявілі ў маім арганізме цукровую хваробу (інтэнсіўна лечаць інсулінам). Вось табе цана за васьмідзесятыя гады!

Стараюся аб інвалідную рэнту. Не дадуць...

**17 - 02 - 1990 г.**

Зайшлі Барскі з Іваноўскім і Стахвюк. Трэба ўтварыць Беларускі форум (БДА, БГКТ) і арганізаваць Беларускі выбарчы камітэт. Спрашаем на 23-га правінцыйных дзеячаў беларускай нацыянальнасці. Настрой: зрабіць гміны беларускімі! Наменклатура з беларусападобенскай робіцца беларускай цяпер. Во як!

Знікненне ПАРП і страх перад „Салідарнасцяй" абеларушваюць усякіх апаратнікаў. (...) Узнікненне беларускіх палітычных тэрыторыяў.

**20 - 02 - 1990 г.**

Перамовы з Праваслаўным брацтвам наконт саюзу ў выбарчай кампаніі (— ад БДА: Г. Міpaновіч, В. Стахвюк, Ясь Максімюк, П. Юшчук, М. Пякарскі і я). Не паразумеліся. Яны накідаюць нам канцэпцыю — Komitet Wyborczy Mniejszości Narodowych, што азначала б санкцыянаванне намі ўкраінскай фронды. Уся бяда ў тым, што і самі брацчыкі не пачуваюцца беларусамі; знаходзяцца на данацыянальным узроўні. Адначасна не хочуць зазначыць у назве — праваслаўную афарбоўку, не зачыняючы сабе дзвярэй за сабою (на ўсякі выпадак). Застацца ў цэну надумалі. Супроць і таго пры гэтым, каб мы дапусцілі да ўтварэння Беларускага выбарчага камітэта. Анахронікі! (...)

**01 - 03 - 1990 г.**

(...) 1-га сакавіка'90 а 13.05 адбылася першая штодзённая беларуская радыёперадача ў Беластоку.

**03 - 04 - 1990 г.**

З Крынак. Першага — з Генікам Міpaновічам — у будынку гміны на арганізоўванні выбарчага камітэта (вёў сход Віталь Фідзюкевіч). Халодны подых польскага шавінізму: прыхільныя да гэтай ініцыятывы палякі і слухаць не хацелі не толькі пра які-колечы беларускі акцэнт у намеранай акцыі, але нават пра помач з боку БДА крынскаму Грамадскаму выбарчаму форуму, хоць і створанаму ў процівагу мясцоваму салідарніцкаму камітэту. Карысць ад гэтага прынамсі такая, што некаторыя беларусы пашкадавалі, чаму не стварылі меншы, але затое Беларускі выбарчы камітэт, які меў бы за сабою напэўна 30% электарату (столькі тут праваслаўных). (...)

*(працяг будзе)*

# БЕЛАВЕЖА

*СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 413*

*Рэдактар: Сакрат Яновіч*


*VERA RICH*

## Recipe for a Miracle*)

First take a land...
(There is no free space on the map, so search around
For one that has vanished, eaten, eroded, nibbled
To nothingness by its neighbours), take a history
Taught as the history of others, add language
Scorned as a dialect, add, too, a people
Long schooled to forget history, race and tongue —
Knead these, and set aside to prove...
Then take
A flag of simple colours, colours of bone
And blood, of bread and wine, water and fire,
Colours of faith and love; take, too, a symbol
Cursed and proscribed (and shared, be it said, with a neighbour)
Pour in a full measure of tears, distilled from griefs
Both old and new; three birches where four should stand,
Children conceived under the Wormwood star
And the bones and buttons and bullets of Windflower Hill;
All these you must blend together; drop by drop
In the chalice of time...
Then, on a day appointed
(You will know it, friend, you will know!), when the world is looking
Elsewhere, take the chalice, and gently, very gently
Trickle the mixture into the risen dough,
And bake in Clio's oven...
Some, at that moment,
Will caution prudence, warn of the winter coming,
Of warm and light to be bought from a wealthy neighbour,
Of idle workshops, goods that will find no buyer,
And a world that often, so often, forgets to care!
Ignore these oracles, friend!
Prepare your loaf,
Wrap it in linen, wreath it around with cornflowers,
Then call to your friends (they will all be friends on that day,
Seven score and more of them!), cry you are coming
To take the waiting chair at their banquet table!

*ВЭРА РЫЧ*

## Рэцэпт цуду

Найперш вазьмі краіну...
(на мапе месца вольнага няма, таму шукай такую,
што зьнікла ў прагных, ненасытных чэравах
краін суседніх), вазьмі гісторыю,
Што іншыя вучылі як сваю, і мову,
Што грэбліва лічылі дыялектам, люд вазьмі,
Што прывучалі забываць свой род і імя —
І рошчыну адстаў, каб падыйшла...
Тады вазьмі йшчэ сьцяг
У простых колерах, як колер косьці
І крыві, як хлеба і віна, вады й агню,
Як веры і любові; вазьмі і знак,
Што іншыя раней сабе ўзялі,
Дапоўні мерай сьлёз, што выцяклі зь нягод
Былых і новых; тры бярозкі без чацьвёртай,
Дзяцей пад зоркаю Палын зачатых
І костачкі зь сьвінцом зьбяры між курапатаў,
І замяшай усё, за дзелькай дзель,
У вечнай чары часу...
Затым, у дзень прызначаны
(ты будзеш ведаць, сябра, будзеш ведаць), калі ўталопіць вочы сьвет
У іншы бок, ты судзіну вазьмі да асьцярожна, вельмі асьцярожна
Далі у рошчыну прагорклай брагі,
І на чарон у печ чароўнай Кліё стаў...
Калі ў той час табе згадаюць
Пра памяркоўнасьць і суворую зіму,
Пра дровы зь лесу ад суседа,
Пра незанятасьць рук і пра дарэмны плён,
Пра сьвет, што часта пра такое ані дбае —
Ты толькі пасьміхніся з каркуноў!
Бяры свой каравай,
Кладзі на ручнікі й валошкамі спавінь; затым
Клікні сяброў (іх будзе тройчы па паўсотні зь лішкам
таго дня!), гукні, што йдзеш
Заняць пустое крэсла у застольлі!

*Пераклаў БКЗ*

---

*) *Гэты верш ангельскае паэткі, напісаны на беларускіх матывах, быў ужо публікаваны ў Менску. Але, як выявілася ў час візіту самое аўтаркі ў нашай рэдакцыі, тыя публікацыі арыгіналу і перакладу зроблены крайне нядбайна... Справа ў тым, што Вэра Рыч добра разумее беларускую мову, сама займаючыся перакладаннем з нашае літаратуры ў ангельшчыну. Таму вырашылі мы надрукаваць дакладную версію самога верша і адэкватнай яму беларускай трансляцыі.*

*КЛЕМЕНС БРЭНТАНА*
*(1778—1842)*

## СЕРЭНАДА

Флейты струменіць трывога,
Йзноў ручай увесь у журчанні.
Галашэння залатога, —
Чуеш? — льюцца нараканні.

Просьба, выказана чула,
З чым ты вернешся у сэрца?
Ноч мяне ўсяго скранула,
Калі промень блісну ў скерца!

*З нямецкай мовы пераклаў*
*ЮРЫ ТРАЧУК*



*Рыс. Міколы Давідзюка*

*САКРАТ ЯНОВІЧ*

# САШЭСЦЕ АХАПА

Панна Міляда — сваім: красуня Ляля — выпадкам счула, што едзе з плугам п'яны хам Ахап, араць мястовыя агароды з зімы.

Чутку падхапілі з радасным віскам пасьлясялянскія дамы ў амерыканскіх парыках, што пляткавалі на рагу Казінай і Воўчай. Запакутавала ад тае добрай весці ўсё патаемная Любка-Шпіёнка: ёй, шасціпудовай, нельга бегма бегчы. Сонца, прытым, нелітасціва прыпякала ў веснавенне (да агародніцкіх халадоў заставалася каля двух тыдняў). Пара ж садзіць бульбу ў садках ды рыхтаваць градкі пад салодзістую моркву, буракі на боршч, мацавітую фасолю, шыкоўныя памідоры, агуркі пад выпіўку...

Любка-Шпіёнка ўспацела ад самое навіны пра Ахапа перш, пакуль паспела што-колечы далей падумаць. Затое, дапаўшы да ганка свае хаты, што ўнізе Рынкавай вуліцы, абудзіўся ў ёй камандзірскі дух, якога даўно ўжо не паспытаў яе шлюбны Аркашка, празваны па палітыкаватым бацьку Імпэрыялістам.

— Ахап! — закрычала Шпіёнка ў цёпла расчыненыя дзверы і Імпэрыяліставіч умомант скеміў, што трэба. Шмыгануў у кухню, дзе ў шуфлядзе доўгага стала ляжаў ключ ад склепа.

— Нож!! — енкнула пасля і грымотна закашлялася, але Аркашку не было калі паратаваць яе кулаком у плечы; нядотыкам кінуўся быў зноў у тую ж кухню.

Бульбы для пасадкі нарэзалі потым удваіх, кош з вярхом і няцэлы другі. Заюшыліся пры гэтым, выхопліваючы адно аднаму той штыхаваты ножань з рук, каб шпарчэй было: Шпіёнка, асоба спадцішна энергічная, не трапляла вастрыём у мякіш, а Імпэрыялісту ад спеху дваіліся бульбіны ў вачах. Раны палівалі яны, як здавалася ім, ёдам, але па тым, як цямнела ў мазгах ад болю, здагадаліся, што схапіліся за бутэлечку з сінім каменем, з якім гэта калісьці наварылі сабе спорнага шэрага мыла з падла.

Упершыню Ахап з'явіўся быў на прадмесці, усё роўна што сышоўшы дабрадзеем з нябёсаў. Ніхто і не напытваў, адкуль ён сам будзе, з якое вёскі ці боку. Наездамі бываў па Вялікадні і, затым, у перадлістападаўскі зазімак. Казалі: жыве ў пакінутых лесунамі хутарах, разгадаваў табун дзікіх коней... Нехта ведаў лепш: не коней, а авечак, трымаючы іх у драцяной загарадзі з электрычным пастухом. Даходны гешэфт, аднак, браўся ў яго не з аўчынак ды мяса. Да таго статка падпаўзалі, дарагія цяперашнім часам, ваўкі з Крынскай пушчы, якіх забіваў на подступах электраток з трактарнага акумулятара. Нюхлівыя ваўчугі кранaлі мокраю пысаю бясколерны провад з вольтамі ў высокай траве і канaлі ад электралізу крыві, нават не завыўшы, толькі вышчарыўшыся із закочанымі пад лабаціну вачыскамі. Аднойчы выпрасцілася за ноч адразу двух, хоць, нагул, калі каторы ляснуў у канвульсіях, рэшта драпала назад. Даволі нечакана Ахапу яны звяліся; недзе ў дрымучых Перацёсах павыла трохі выжыўшая ваўчыца ды, відаць, збегла некуды, можа і ў Белавежу, пашукаць ган'ё.

Ахап замаркоціўся. З аднымі авечкамі яму не ўдаваўся рахунак. Трэба да іх гаспадыню, каб стрыгла воўну. Старому кавалеру мець бабу ў хаце — як ні думай — гэта благі інтарэс, выдаткі за выдаткамі і сварлівы кантроль за глупствамі. Збыў узяў чараду падбеластоцкаму шанцоўніку і прывёў з торгу ў Саколцы каняку.

У руінных пустэчах пачуваўся Ахап, бы асаднік які на абрабаваных саветамі нямецкіх землях, што ў пасляваенне адышлі пад Польшчу. Знаходзіў усялякае, патрэбнае яму, ламарэндзе; склаў зграбны вазок, выштукаваў барану, нафтаю ачысціў з іржаўя цалюткі жалезны плуг, што гібеў у дзірване на чыімсьці загуменні (гледзячы здалёку меў выгляд рыхтык кінутага адступаючай салдатнёю станковага кулямёта). Пашэнціла і з лейцамі, на якіх даўнавата хтосьці павесіўся на бэльцы ў стадоле; у астаронку валяліся парасцяганыя звяр'ём чалавечыя косці, шматкі фуфайкі; тырчэлі беленню з гумовых ботаў галёнкі, зеўраў чэрап у завязанай пад пашчэнкі шапцы-вушанцы (надумаў шалёны бяду ў завейную адзіноту?). У нябрыдкай хаце пад гаем, у якую Ахап залез цераз выламанае кімсьці акно, чарнацелі чатыры тэлевізары на падлозе: варушылася ў іх плойма мышэй, што ўпадабалі гнездаваць паміж лямпамі апаратуры. З аблезлае халадзільні гультаявата выкручвалася змяя.

Ахап прадчуў кан'юнктуру сабе. Зрабіў стаўку на каменданта пастарунка і на войта. Тыя без пярэпалаху сеялі наркатычны мак, таксама каноплі, і пашырылі ладныя загоны ходкіх трускалак, а яны любяць частую змену глебы і глыбокае ворыва (даглядалі плантацыі дробныя бандыткі з мясцовай галоты, абыціха адпушчаныя ад пратакольнай адказнасці). Ахап, закрасаваўшыся з канём і плугам у начальніцкіх платах, спакойна не напрошваўся клієнтам; самі прыходзілі да яго, падпільноўваючы здаля. Грошай ад нікога не прымаў, тлумачачы тое здуманымі на гэты конт нейкімі святымі запаветамі, што запэўніла яму навалу заказаў. Ці ў спёку, а ці ў холад, насіў, аднак жа, на сабе непамерны плашч, транту ў латах, але з прасторнымі кішэнямі, які скідаў у работу і чапляў абавязкова поблізу сяней у мяшчанскіх дамах. Скончыўшы араць агарод і выслухаўшы падзяку ад панаватага гаспадара, асцярожна апранаў той лахман, заўсёды адчуваючы прыемны і лёгкі цяжар паўлітроўкі ў ім, далікатна засунутай яму папярэдне. Не любіў рабіць удовам: клалі кавалец сала, ну, дадаючы вянок купленае каўбасы.

* * *

... Ахапа вось чакалі і не прычакалі. Ён, магчыма, запіўся насмерць за доўгую зіму. Хацелі шукаць яго, але не шукалі, не вельмі ведаючы, дзе, у якім падлессі зарастаючай маладнякамі гміны, асталяваўся ў рэшце рэшт. Шкадавалі гэтага чалавека, тужліва выглядваючы, ці часам не валачэцца з бразгатам шырокаю, асфальтаванаю вуліцаю да камендантавай мураванкі або секс-шопы зяця войта... А калі ўжо нельга было адкладваць майскае сеянне, запаўцелі клясці Ахапа і набываць рыдлёўкі.

Паводле Любкі-Шпіёнкі, Ахап увайну быў дзесьці нямецкім солтысам... Імпэрыялістаvіч выказаў дапушчэнне, што яго знікненне трэба лучыць з пераходам на амерыканскую службу, бо ўперадвялікдзень чуў ён апоўначы як гудзеў над лясамі самалёт...

Прапаў Ахап, усё роўна што ніколі і не было яго.

**Зорка**
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ




# БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ





Сёлета ў аглядзе беларускай песні, які праходзіў 12 мая ў Бельскім доме культуры, прыняла ўдзел на здзіў вялікая колькасць маладых артыстаў. Вашых аднагодкаў, знаёмых, сяброў. Падзеленыя на розныя катэгорыі, паводле ўзросту і колькасці спевакоў у калектыве, праспявалі яны разам аж 84 песні.

Паколькі ўсіх удзельнікаў конкурсу пералічыць проста немагчыма, пазнаёмлю вас з яго вынікамі. А побач можаце паглядзець пару здымкаў з гэтай цікавай імпрэзы.

**ВОСЬ ПЕРАМОЖЦЫ:**

— узнагароду **ГРАН-ПРЫ** атрымаў **вакальна- інструментальны калектыў з Пачатковай школы ў Нараўцы „Душкі з пушкі",**

— **малодшыя салісты** (класы I—III):

**I месца — Юля Навумчук** з Пачатковай школы н-р 3 у Бельску і **Аня Сухадола** з Нараўкі,
**II месца — Оля Рынгайла** з Орлі,
**III месца — Аня Ярмоляк** з Пачатковай школы н-р 2 у Бельску і **Дарота Бакун** з Орлі,
**вылучэнне — Аля Сегень** з калектыву „Пронар" з Нарвы;

**малым формам** (дуэтам, тэрцэтам, квартэтам) сярод малодшых камісія месцаў не прызнала, толькі вылучыла **дуэты з Гарадка, Чаромхі і нараўскага „Пронару";**





— **старэйшыя салісты:**

**I месца — Кася Сегень** з бельскай „тройкі" і таксама бяльшчанін **Пётр Адзіевіч** з „двойкі",
**II месца — Эва Семяновіч** („Пронар" Нарва),
**III месца — Малгося Янчук** з Курашава, **Ілёна Карпюк** з Пачатковай школы н-р 2 у Гайнаўцы (прыехала з групай Гайнаўскага дома культуры) і **Эля Саевіч** з Чаромхі;

— **малыя формы сярод старэйшых:**

**I месца — не было,**
**II месца — квартэт з Чаромхі,**
**III месца — квартэт „Пронару"** з Нарвы;

— **старэйшыя вакальныя калектывы** (ад 5 да 8 асоб):

**I месца — Пачатковая школа н-р 2 у Сямяцічах і Пачатковая школа ў Гарадку,**
**II месца — квінтэт з Чыжоў,**
**III месца — Нараўскі асяродак культуры і Пачатковая школа ў Дубічах-Царкоўных;**

— **хоры не дзяліліся па ўзросце:**

**I месца — „Жураўінка"** з бельскай „тройкі",
**II месца — „Пронар"** з Нарвы,
**III месца — хоры са школ у Кленіках і Ласінцы,**
**вылучэнне — група Гайнаўскага дома культуры.**

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**
**фота атара**



На здымках:

1. Дзяўчаткі з Нараўкі сілкуюцца бананам, каб потым разам з калектывам „Душкі з пушкі" ўзяць галоўную ўзнагароду агляду.

2. „Жураўінкі" з бельскай „тройкі" — першае месца сярод хораў.

3. Браты Міхал і Славік Астапчукі ў цыганскай песні (вылучэнне).

4. Аня Ярмоляк з бельскай „двойкі" — II месца сярод малодшых салістаў.

5. Маладыя рокеры з Нараўскага асяродка культуры.

6. Дзяўчаткі з Нараўскага асяродка культуры ў новых уборах.

**АДГАДАНКА „ПАДАРОЖЖА"**

**У каралеўстве крывых люстраў.** Маршрут першы. *Барок. Тол — лот. Піліп, Натан, Патап, Боб; Ада, Ала, Аза, Яня, Кораб.* Маршрут другі. *Рама — амар. Апал — лапа. Лом — мол. Ток — кот. Дог — год. Нос — сон.*

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ

29

*(працяг з папярэдняга нумара)*

## У каралеўстве крывых люстраў

Ці даводзілася вам бываць у ім? Не? Вы толькі чыталі кніжку і глядзелі мастацкі фільм? Гэта добра. У такім разе, пэўна, вы памятаеце, што ў гэтым каралеўстве ўсё робіцца наадварот. Нават імёны такія, што іх, каб перакласці на нашу мову, трэба чытаць не злева направа, як у нас, а справа налева. Вам, безумоўна, не спадабаўся хлуслівы і хціві *Абаж*, на-нашаму *Жаба*. Вы хваляваліся за лёс дзяўчынкі *Олі* і яе сяброўкі-двайніка *Яло*, радаваліся, калі з дапамогай добрай кухаркі *Аксал* быў выратаваны *Гурд*.

Сёння мы можам пачаць падарожжа па гэтай краіне. Але сустракацца з жорсткім каралём і яго сквапнымі прыдворнымі будзе, мусіць, нецікава — куды прыемней мець справу са словамі, якія можна чытаць і па-нашаму, і палюстранаму. Называюцца такія словы *паліндромамі*.

Паліндромы бываюць трох відаў: у абодвух напрамках чытаецца

тое ж слова ў той жа марфалагічнай катэгорыі *(Піліп, Ала);*

розныя словы ў адной катэгорыі *(сон, нос);*

розныя словы ў розных катэгорыях *(сам* — займеннік, *мас* — родны склон назоўніка *масы*).

У нашым падарожжы мы пройдзем па розных маршрутах, і на кожным з іх будуць цікавыя сустрэчы. Як сапраўдных турыстаў, нас чакаюць перашкоды і цяжкасці, а тых, хто паспяхова іх пераадолее, чакае ўзнагарода. Усе гатовыя? Тады пойдзем.

### Маршрут першы

Ён прывёў нас у *маленькі сасновы лясок*, у якім людзі займаюцца нейкай справай. Што яны робяць — запытаемся ў іх. Падыходзім бліжэй, і яны тлумачаць нам, што ператвараюць *выбуховае рэчыва ў прыбор для вымярэння глыбіні*. Добрая справа! Выбуховых рэчываў у свеце і сапраўды зашмат. Не будзем перашкаджаць, пойдзем далей, а па дарозе ўспомнім, як нашы новыя знаёмыя называлі сябе. Вельмі цікавыя ў іх *імёны* — *з абодвух канцоў чытаюцца зусім аднолькава*. Успомнілі гэтыя *імёны* — чатыры *мужчынскія* і чатыры *жаночыя*?

Мы адышлі ўжо даволі далёка, і — паглядзіце — *сасновы лясок* раптам ператвараецца ў *вялікую лубяную каробку*.

Калі вы пераадолелі цяжкасці першага маршруту і адшукалі патрэбныя словы замест тых, што выдзелены ў тэксце, то мы можам накіравацца далей.

### Маршрут другі

На гэтым маршруце ўзнікла адразу перашкода: дарогу перагарадзіў *вялікі прадмет, у які ўстаўляецца карціна або шкло*. Паспрабуем прыбраць яго з дарогі. Глядзіце, на ім запіска: „Прыбіраць мяне нельга! Ператварыце мяне ў *марскую жывёліну*, тады я сам пабягу”. Што ж, так і зробім, не будзем парушаць парадкі чужой дзяржавы.

Уперадзе нешта блішчучае, пераліваецца рознымі колерамі... *каменьчык* — мабыць, *каштоўны*. І зноў запіска: „Ператварыце мяне ў *нагу жывёлы*, і я пайду”. Так, гэта трэба неадкладна зрабіць, каб дапамагчы гэтай назе хутчэй знайсці сваю жывёлу.

Пойдзем далей. На дарозе ляжыць інструмент — *прылада, якой ломяць або разбіваюць нешта цвёрдае*, а на ёй надпіс: *„Хачу ў мора!”* Як гэту просьбу выканаць? І ў што мы можам ператварыць гэты інструмент?

Дзень канчаецца. Дарога вядзе нас да *месца абмалоту збожжа*. Толькі мы наблізіліся, як *яно* — ці дакладней *ён* раптам *ускочыў* і *пабег*. Чаму? А, напэўна, таму, што сюды бяжыць *вялікі сабака*. Падбег да нас і просіць (мы ж у казачным каралеўстве, дзе жывёлы і нават рэчы ўмеюць гаварыць): „Ператварыце мяне ў *меру часу*, а тады пойдзеце далей”. Трэба ж выканаць просьбу, калі яму так хочацца. Перш чым ператварыцца ў меру часу, сабака з удзячнасцю торкнуў кожнаму з нас у далонь сваю *частку морды*, і ўсіх нас ахапіў *пэўны стан чалавека*. Адпачыўшы, у наступным нумары пойдзем маршрутам трэцім.

*(працяг у наступным нумары)*

*ВІКТАР ШНІП*

**РАЗБУДЗІЦЕ МАМУ**

Сёння да дачушкі  
Прыляцелі птушкі,  
Гучна ўсе спяваюць  
Спаць перашкаджаюць,  
А яна не плача,  
Як сінічка, скача:  
— Разбудзіце маму!  
З ёй пайду я ў краму,  
Там куплю для мамы  
Аж тры кілаграмы  
Пернікаў мядовых,  
Вішанек цукровых,  
А сабе куплю  
Тое, што люблю,  
Толькі б сёння маму  
Мне завесці ў краму!

**ЛІЧЫЛКА**

Мы купілі тэлефон,  
Ды ў яго згубіўся звон.  
Будзем мы адпачываць,  
Ну а ты той звон шукаць.

**СНЫ**

Мне прысніўся бегемот,  
Што стаптаў наш агарод.  
У сястры больш страшны сон —  
Ёй прысніўся жоўты слон.  
Ціха мы цяпер ляжым  
І на брацікa глядзім.  
Ну а ён спакойна спіць,  
Пэўна, шакаладку сніць.

**САЛОДКІ МАК**

Ходзіць певень па двары  
І глядзіць, як камары  
Мак, спяваючы, таўкуць.  
Пеўню маку не даюць.  
Певень кажа камарам:  
Дайце маку, я вам дам  
Чарвячка, як парсючка,  
І жучка, нібы бычка.  
Ды не чуюць камары —  
Мак салодкі на двары.

**ПАДАРУНКІ ПЕЎНЮ**

Пеўню на дзень нараджэння  
З лесу ліс прынёс варэння.  
Ад мядзьведзя-лежабокі  
Прынеслі малін сарокі.  
А барсук, бабёр і вожык  
Падарылі зерня кошык.  
Заяц, рысі і ваверкі —  
Самакат — катацца з горкі.  
Нават шэры воўк зубаты  
Пеўню даў цукровай ваты.  
Ну а наш маленькі Жэня  
Пеўню на дзень нараджэння  
Даў будзільнік сапсаваны,  
Каб спаў певень кожны ранак  
І ля хаты не хадзіў,  
Жэню рана не будзіў.

*ВІКТАР ШВЕД*

**НАША МАЦІ**

Цудоўная Матуля,  
Бясцэнная нам Матка,  
Яна да сэрца туліць  
Каханае дзіцятка.

Усе нашы патрэбы  
Выконвае без слова.  
І нават зорку з неба  
Дзеткам падаць гатова.

Хварэе нашым болем,  
Сон сцеражэ уночы,  
За поспехамі ў школе  
Штодзённа пільна сочыць.

Усё, усё зямное  
Даць нам імкнецца Маці.  
Няхай жа дабрынёю  
Ёй кожны з нас адплаціць.

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

Настаўнік. Чаму салавей, як пяе свае песні, заплюшчвае вочы?  
Вучань. Бо ён іх ведае на памяць.

* * *

Настаўнік, грэючы бок каля печы, навучаў дзяцей, каб яны ніколі, добра не падумаўшы, не пачыналі гутаркі.  
— Лічыце, — кажа, — лепш да сотні спярша, каб мець час добра абдумаць, што хочаце сказаць.  
Толькі гэта сказаў настаўнік, як усе вучні разам загулі: „Раз, два, тры, чатыры...” — і так аж да сотні. А пасля як гукнуць:  
— Ваша крысо гарыць!

* * *

Настаўнік і вучань у акулярах.  
— Пятро, навошта чалавеку вушы?  
— Каб бачыць.  
— Як жа гэта?  
— А як бы я насіў акуляры, каб у мяне не было вушэй.

* * *

Настаўніца падышла да аднаго вучня, з дакорам паглядзела на яго і сказала:  
— Зноў маці рашыла за цябе задачу?  
— А што мне рабіць, калі тата ніколі не мае часу.

* * *

Настаўніца. Калі ты ўжо, Васілёк, добрыя адзнакі атрымаеш?  
Вучань. А гэта залежыць ад вас.

* * *

Міхась. Алё? Гэта школа? Запрасіце дырэктара, калі ласка, да тэлефона.  
Дырэктар. Я вас слухаю.  
Міхась. Ваш вучань Міхась Качкін хворы і не можа прыйсці на заняткі.  
Дырэктар. А хто са мной размаўляе?  
Міхась. Мой бацька.

# ЯШКА

Цяпло доўга не наступала, а на дварэ быў пачатак мая. Дні шэрыя, з туманам.

— Тата, сходзім да рэчкі, — гаворыць аднойчы мне Алег. — Я табе там Яшку пакажу.

— Якога яшчэ Яшку?

— Ну, Яшку, вепрука, сапраўднага, ляснога. Дзеці пасвяць яго там на беразе. Мы з садзіка з Алай Сямёнаўнай хадзілі туды. Каршун яго з неба скінуў, — з радасцю, амаль глытаючы словы, гаварыў сын.

— Крыху пацяплее, і пойдзем, сынок. Абавязкова.

... Была якраз нядзеля. Пасля дожджыку сонца разарвала хмары, наўкол ружовыя промні развесіла. Ішлі полем, напрасткі. Прама з-пад ног кідаліся ў неба жаўрукі. На вербах мяккія пушыстыя коцікі, а вакол кароценькая, нібы падстрыжаная, маладзенькая трава.

Сын стараўся забегчы наперад.

— Тата, вунь, бачыш, вепрука пасвяць, — паказаў ён рукой і пабег далей.

Я пайшоў за сынам.

Спакойна, ні на каго не звяртаючы ўвагі, пашчыпваў траву лясны жыхар, дзікі вяпрук Яшка. Сын, бачачы, што дзеці гладзілі Яшку рукой, яшчэ бліжэй падышоў да яго і таксама смела пагладзіў некалькі разоў вепрука па спіне. А Яшка спакойна пашчыпваў траву, раз-пораз падымаючы ўверх галаву, і сваімі вузкімі вочкамі спакойна, з нейкай чалавечай цікавасцю аглядаў людзей.

... Маленькім парасяткам адбіўся ад маткі Яшка. Яго і выследзіў каршун, ударыў дзюбай, схапіў вострымі кіпцюрамі і панёс над полем.

Але ноша нялёгкай аказалася. Выпусціў драпежнік з кіпцюроў здабычу, і паляцела вепраня каменем уніз. Каршун, стараючыся падхапіць ахвяру, кінуўся следам. Але паблізу знаходзіліся школьнікі. Яны і выратавалі ад бяды маленькага вепрука. Назвалі Яшка.

Цяпер дзеці і Яшка — сапраўдныя сябры.

ІВАН ГАЛУБОВІЧ

 


*Заснавальніца калектыву Ніна Мушынская (справа) сёння сярод гледачоў.*

Працяг са стар. 1

ДА 40-ГОДДЗЯ ГАРАДОЦКАГА ХОРУ

# А Ў ДУШЫ ІХ — МАЛАДОСЦЬ

па яго ініцыятыве і пры ўкладзе яго творчай працы Гарадоцкай гмінай былі выдадзены буклет і плакат на юбілей хору, ды і наогул вядзе ён велізарную працу пры ўсіх мерапрыемствах, якія арганізуюцца ў гміне, асабліва можна было гэта заўважыць пры арганізацыі „Басовішча" і вось цяпер.

А калі б не Яўген Семянюк, войт гміны, ды і наогул зычлівыя адносіны ўсёй Рады гміны, дык таксама не было б такога святкавання. Вядома, якое сёння нялёгкае матэрыяльнае становішча гмін, а ўсё ж у Гарадку была выдзелена значная сума грошай на дзейнасць калектыву.

Ну, і сцэнаграфію апрацавала маладая мастачка Марыя Мялешка, якая працуе пры доме культуры. Гарадоцкі калектыў лічыць, што яе праца — гэта палова іх поспеху ў гэтым свяце. Вы найлепш пагаварыце з Тамарай Бурачэўскай, дырэктарам Гміннага дома культуры. Яна там усё каардынуе, яна вам усё і растлумачыць.

* * *

Гарадок заўсёды такі: велічны, чысты, культурны. Пазбаўлены комплексаў правінцыі, людзі паводзяць сябе годна і з дастойнасцю.

Пры ўваходзе ў дом культуры сустракаюць гасцей гаспадары, а сярод іх і войт Яўген Семянюк. Дыскрэтны войт, дыскрэтная дырэктарка, якая неяк незаўважальна кіруе тут усімі падзеямі, ды і такія ж артысткі ствараюць уражанне, што не яны тут сёння галоўныя героі, а госці. І таму кожны адчувае сябе тут, як у роднай хаце. Кожнаму ёсць месца і адпаведная доза ўвагі.

У пакоі наверсе, куды нас правялі, сустракаю густоўна апранутую дзяўчыну, якая мітусіцца з фотаапаратам. Пытаю наўздагад, ці не яна тут мастачкай. І не памылілася. Марыя Мялешка ўжо тры гады працуе пры Гмінным доме культуры. Ну, што яна робіць? Усё, што трэба. Вядзе мастацкі гурток для дзяцей, падрыхтоўвае дэкарацыі да пастаянных мерапрыемстваў — на Дзень маці, Дзень дзіцяці, у карнавале. Вядзе дыскатэкі, а часамі дык і прыбраць трэба. Ну, і робіць яшчэ каляровыя дэкарацыі для лялечнага тэатра, а таксама і лялькі... Але вядзе лялечны тэатр для дзяцей пані Тамара Бурачэўская! Яна, як шматгадовы дырэктар дома культуры, найбольш знаецца на справе. Яна вам усё скажа.

Але ў Тамары Бурачэўскай сёння столькі спраў! Забегла на момант, кінула толькі: „Гэта не я, гэта ўсё нашы жанчыны, а Марыя вам скажа лепш за мяне", — і ўжо яе няма. Не на сёння гэта размова, калі ты і дырэктар, і артыстка, і гаспадыня-арганізатарка.

* * *

Сорак гадоў таму гарадоцкія жанчыны падрыхтавалі свой першы канцэрт. Было гэта на Дзень жанчын, у сакавіку 1954 года. Маторам калектыву была бібліятэкарка Ніна Мушынская, якая і жанчын пазбірала, і песні ды жартоўныя частушкі з іх жыцця пісала. Будучы ўжо тады ў сталым узросце, яна спявала яшчэ на 35-годдзе хору. А і цяпер, нягледзячы на свае гады і хваробы, прыехала з дома грамадскай дапамогі ў Ялоўцы, дзе жыве ўжо сем месяцаў і, як кажа, піша ўспаміны. І выйшла на сцэну, проста прымусілі яе, і прыняла і кветкі, і віншаванні.

Сёння ў гарадоцкім калектыве спяваюць: Ніна Цыванюк, Ірына Паўлючук, Тамара Бурачэўская, Ніна Лапінская, Раіса Дылько, Галена Кот, Ірына Свентахоўская, Галіна Паплаўская, Марыя Салагуба, Галіна Ляховіч, ну і двух мужчын: Юры Налівайка і Сцяпан Копа. Разам 12 асоб.

З тых, што пачыналі з Нінай Мушынскай, засталіся толькі Ніна Цыванюк і Ірына Паўлючук, рэшта — жанчыны маладзейшыя, але таксама дастаткова вопытныя. У пяцьдзесят чацвёртым спявалі ўжо таксама Надзя Парэмбская і Вольга Мядзведзева, а цяпер не спяваюць, бо носяць жалобу па мужах. Не магу дачакацца, калі ізноў прыйду ў калектыў і крыху развею свой смутак, кажа Вольга Мядзведзева. Жанчыны гэтыя таксама былі выкліканы на сцэну.

А Марыя Міруць, колішняя лаўрэатка цэнтральнага агляду беларускай песні, якая атрымала ў свой час ўзнагароду „Нівы" за найлепш выкананую фальклорную песню, прыехала сёння з Ольштына. І таксама заспявала, хаця лёс разлучыў яе з родным хорам.

* * *

Пра святкаванне саракагоддзя Гарадоцкага мастацкага калектыву нельга сказаць: урачыстасць як урачыстасць. Усё тут было апрацавана дасканала, да апошняга каліва. І выступленні самадзейных артыстаў, і мастацкае афармленне, і ўвесь ход урачыстасці. Вёў праграму Лёнік Тарасэвіч, наш славуты ўжо мастак, а калектыў спяваў свае песні ад найстарэйшых да сучасных. Былі і задушэўныя лірычныя песні, і жартоўныя. Усё найлепшае, што спявалася на працягу сарака гадоў. Цвіркалі птушкі, жанчыны плялі вянкі з кветак. І гледзячы на гэтых, у большасці немаладых ужо, жанчын, мне думалася: колькі ж у гэтых людзей душэўнай сілы і энергіі! Вось і Ніна Цыванюк наракае, што ўжо не тое, што няма такога здароўя, а як выйшла на сцэну ды завяла сваім моцным голасам заліхвацкую песню „Ці свет, ці світае"... Колькі ж у душах гэтых жанчын здаровага (тут, не хаваючыся, скажу — вясковага) гумару і аптымізму! Бадай сілы гэтым людзям дае тая зямля, на якой яны выраслі, тыя старыя сосны, якія законсервавалі іх пахам сваёй жывіцы, а сэрцы напоўніла ім хараством чароўнае наваколле, якое не можа не нараджаць мастакоў і паэтаў.

І я падумала, што малады войт Яўген Семянюк, які, калі гасцям не хапіла месца ў першым радзе, скромна прысеў на прыстаўным зэдліку, таксама мусіць быць у душы паэтам, калі столькі ўвагі прысвячае мастацкаму руху ў сваёй гміне. А ён мне толькі сказаў: „Маёй заслугі тут няма. Гэта ўсё — нашы артысткі".

* * *

На ўрачыстасці прысутнічалі, віншавалі, уручалі кветкі, узнагароды, падарункі: дырэктар Аддзела культуры, спорту і турыстыкі Ваяводскай управы Эўгеніюш Біль-Яруээльскі, сакратар беларускага пасольства ў Варшаве Уладзімір Каральчук, беларускі консул у Беластоку Ігар Хадасевіч, намесніца дырэктара Ваяводскага асяродка анімацыі культуры Барбара Пахольская, гарадоцкі войт Яўген Семянюк, дырэктар Гайнаўскага дома культуры Мікола Бушко, прадстаўнікі ГП БГКТ — старшыня Ян Сычэўскі і сакратар Валянціна Ласкевіч, нашы пісьменнікі Сакрат Яновіч і Віктар Швед, журналіст Міхась Хмялеўскі, суседкі-спявачкі з Дашоў, Меляшкоў, Агароднічкаў і іншыя ды іншыя. А Лёнік Тарасэвіч выйшаў віншаваць калектыў з вялізнай скрынкай ружаў пад пахай. Скрынка была абкладзена бліскучай сярэбранай фальгой і выглядала вельмі цікава. Калі перадаў яе Сцяпану Копу, дык той аж прысеў (дырэктар Э. Біль-Яруээльскі высвятліў мне пацішу, што гэта была скрынка гарэлкі, а ружы — толькі наверсе). І вельмі прыгожа падзякаваў калектыву „за тыя гады, у якія яны абаранялі сваю маральнасць і годнасць". Брава, маладое пакаленне! Аказваецца, можна абараняць сваю годнасць і фальклорам, а не толькі сучаснай рок-музыкай!

* * *

Ніна Цыванюк, якая як народная паэтка ў калектыве прыйшла на змену Ніне Мушынскай, у адным з сваіх вершаў гаворыць, што хацела б, „каб прылучыліся да нас людзі маладыя". Я думаю, што спадзяванні калектыву здзейсняцца. У гэтым пераконвае мяне маладзенькі вучнёўскі калектыў з Гарадка, што заняў першае месца ў Бельску на Цэнтральным аглядзе беларускай песні'94 для дзяцей і школьнай моладзі і заспяваў на гэтай урачыстасці. Як жа чароўна гучала ў іх выкананні „Купалінка"! Якія далікатныя, але ўпэўненыя галасы!

Ды і вучань Міхалоўскага ліцэя Юрка Астапчук, які па-сучаснаму выканаў беларускія народныя песні, ужо ўнёс значны ўклад у мастацкае жыццё Гарадка.

І хочацца спадзявацца,што тое адданне роднай справе панясуць гэтыя маладыя людзі праз гады. Вучаць іх гэтаму бабулі і бацькі.

Вось хаця б Юры Налівайка. Не паехаў жа на ўрачыстасці ў Монтэ-Касіна, дзе ваяваў паўвеку таму. Застаўся дома, бо хацеў у гэты дзень, 14 мая 1994 года, быць са сваімі.

* * *

Дырэктар Э. Біль-Яруээльскі ўручыў значкі „Заслужаны дзеяч культуры" Ніне Цыванюк, Ніне Лапінскай, Галене Кот, Ірыне Паўлючук, а Ганаровыя дыпломы міністра культуры — Ніне Мушынскай, Юрыю Налівайку, Сцяпану Копу. Можа камусьці гэта здасца і невялікай справай, бо ёсць узнагароды і вышэйшыя. Але думаю, што для гэтых людзей абазначаюць яны веру ў сэнс іх нялёгкай грамадскай працы. Ну, а тым, што пакуль узнагарод не атрымалі, будзе найлепшай падзякай усмешка гледача.

* * *

Жанчыны з лёгкім смуткам спяваюць: „Сорак год таму назад былі як вяргінечкі...", але па іх старасці не відаць. Ёсць сталасць і спеласць, майстэрства, роўнае прафесіянальнаму калектыву, а ў душы іх — маладосць! На працягу гэтых гадоў перажылі яны разам нямала радасці і сямейнага гора. І, хаця склад калектыву змяняўся, былі яны як адна сям'я, як блізкія людзі, сярод якіх можна было пасмяяцца і выплакацца. Памiралі ў іх мужы, сыны, дочкі, нават унукі, а яны, агораўшы біду, неслі сваю песню далей.

* * *

Зала, дзе адбываліся ўрачыстасці, апусцела. Толькі музыканты збіраліся пераносіць свае інструменты ў іншую залу, дзе мела быць больш прыватная частка гэтага свята. З вестыбюля я глянула апошні раз на сцэну, і мне здалося, што нехта адчыніў усе дзверы наскрозь. Бярозавы гай быў асветлены святлом месяца, а паветра было чыстае і празрыстае. Гэта быў толькі момант, і я зараз жа пераканалася, што гэта толькі сцэнічная дэкарацыя, падсветленая неонамі.

Але ў гэты момант я зразумела: усё тут такое самароднае і аўтэнтычнае, настолькі чыстае і непадкупнае, што нават намаляванае здалося мне праўдзівым.

**АДА ЧАЧУГА**
**Фота аўтара**

P.S. Развітваючыся з Лёнікам, я вiншую яго, што так цудоўна вёў канцэрт. А ён кажа: гэта не я, гэта заслуга Сцяпана Копы.

А.Ч.


*Сярод гасцей — сакратар пасольства Рэспублікі Беларусь Уладзімір Каральчук (у цэнтры).*



 

 

# Нядзеля аб сляпым

У шостую нядзелю пасля Пасхі Царква ўспамінае дараванне Ісусам Хрыстом зроку слепанароджанаму. Вось у які спосаб гэтае цудоўнае аздараўленне прадстаўляе Святы Евангеліст Іаан:

*І, праходзячы, угледзіў чалавека сляпога ад нараджэння. Вучні Яго спыталіся ў Яго: Раввi! хто саграшыў: ён, ці бацькі яго, што ўрадзіўся сляпы? Ісус адказаў: не саграшыў ані ён, ані бацькі яго, але дзеля выяўлення ў ім спраў Божых. Мне трэба рабіць справы Таго, што паслаў Мяне, пакуль дзень; надыходзіць ноч, калі ніхто не можа рабіць. Пакуль Я на свеце, Я святло свету. Сказаўшы гэта, Ён плюнуў на зямлю, зрабіў з сліны балота і памазаў ім вочы сляпому дый сказаў яму: пайдзі, умыйся ў купальні Сілаам (што тлумачыцца: Пасланы). Той пайшоў і ўмыўся і прыйшоў бачучы. Суседзі ж і тыя, што бачылі яго раней, як быў сляпы, гаварылі: ці ж не той гэта, што сядзеў і жабраваў? Іншыя казалі: гэта ён, а іншыя — падобны да яго; ён жа казаў: гэта я. Дык пыталіся ў яго: як адчыніліся вочы твае? І той адказаў і сказаў: Чалавек, званы Ісусам, зрабіў балота, памазаў вочы мае і сказаў мне: пайдзі ў купальню Сілаам і ўмыйся. Я пайшоў, умыўся і стаў бачыць. Дык сказалі яму: дзе Ён? Ён адказаў: не ведаю. Павялі гэтага былога сляпога да фарысеяў. А была субота, калі Ісус зрабіў балота і адчыніў яму вочы. І пыталіся ў яго ізноў фарысеі, як ён стаў бачыць. Ён жа сказаў ім: балота палажыў Ён на вочы мае, і я ўмыўся і бачу. Дык некаторыя з фарысеяў гаварылі: не ад Бога гэты чалавек, бо не шануе суботы. Другія казалі: як можа чалавек грэшны рабіць гэткія цуды? І была між імі спрэчка. І зноў кажуць сляпому: а ты што скажаш аб Ім, што Ён табе адчыніў вочы? Той адказаў: гэта прарок. Яўрэі ж не паверылі, што ён быў сляпы і стаў бачыць, пакуль не паклікалі бацькоў аздароўленага і спыталіся ў іх: ці гэта сын ваш, аб якім вы кажаце, што ён радзіўся сляпы? Як жа ён цяпер бачыць? Бацькі яго адказалі ім і сказалі: мы ведаем, што ён наш сын, і што ён радзіўся сляпы; а як цяпер бачыць, не ведаем: таксама, хто адчыніў яму вочы, мы не ведаем: сам ён дарослы, самога спытайцеся; няхай сам аб сабе кажа... (Іаан 9, 1-38).*

Прыклад слепанароджанага, які быў аздароўлены Ісусам Хрыстом Царква паказвае нам як сімвал кожнага грэшнага, сляпога ад нараджэння. Прыгадваючы дараванне ў цудоўны спосаб магчымасці бачання для духовых і цялесных вачэй сляпога, Царква навучае, што сапраўднай крыніцай святла з'яўляецца адзін толькі Гасподзь і толькі дзякуючы святлу, якое Ён дае нам, можна ўбачыць сапраўднае і збавіцельнае святло.

Адзін з рускіх святых — Св. Ціхан Задонскі кажа, што: „грэх для чалавечай душы з'яўляецца тым, чым цемра для цялесных вачэй", а „духовая цемра так зацямняе і асляпляе духовыя вочы, што грэшнік ходзіць быццам сляпы: не ведае дакуль вядзе дарога, па якой ён ідзе..., бачучы не бачыць і дзейнічае навобмацак як сляпы...".

У надыходзячым тыдні прыпадаюць два святочныя дні.

Серада, 8 чэрвеня — **Адданне свята Пасхі**. Гэты дзень завяршае святкаванне Уваскрэсення Гасподняга і ў ім адзін раз у год нядзельнае Богаслужэнне адпраўляецца ў будны дзень. У гэты дзень з Прастола здымаюць Св. Плашчаніцу, якая знаходзілася на ім з моманту палуношніцы, якая служылася непасрэдна перад Пасхальным начным Богаслужэннем. У дзень **Аддання Пасхі** апошні раз чуем трапар „Христос воскресе из мертвых...".

9 чэрвеня ў чацвер прыпадае дванадзесятае свята **Узнясення Гасподняе**. У гэты дзень успамінаем узнясенне на неба ў саракавы дзень пасля Пасхі Госпада нашага Ісуса Хрыста (Мк. 16: 16-20; Лук. 24: 50-53; Дз. Ап. 1: 1-12). Быў гэта апошні дзень прабывання на зямлі ўваскрэсшага Збавіцеля. Узнясенне Госпада адбылося на Елеонскай гары паблізу Віфаніі, дзе Хрыстос неаднойчы маліўся.

З Узнясення да Пяцідзесятніцы раннія і вячэрнія малітвы пачынаюцца са слоў: „Святый Боже, Святый Крепкий..."

**С. Н.**

# ГАЙНАЎСКІЯ НАПЕВЫ — АДКРЫЦЦЁ

*Працяг са стар. 1*

Вясельныя шафёры шпараць паказуху — пішчаць толькі колы замежных машын. Недалёка праязджае трактар.

— Сёння ў нас Мікола, — кажа М. Бушко, — людзі могуць засесці за стол замест прашпацыравацца за мастацкімі ўражаннямі.

Даходзіць 17-ая гадзіна. У бюро Фестывалю паддаюць ходу. Гусцеюць размовы. Паволі з'язджаюцца госці, а ў царкву заходзяць гайнаўляне. У буфеце дома культуры, дзе дрынкі і джаз у лагоднай танальнасці, збіраюцца вядомыя ў Гайнаўцы персоны. Прывітанні, сяброўскія размовы. Фестываль царкоўнай музыкі — гэта тая адзіная ў годзе пара, калі вочы ўсяго рэгіёну накіроўваюцца на Гайнаўку. Хаця Фестываль ад некалькіх гадоў мае міжнародны ранг, аднак, зацікаўленасць польскага цэнтра ім далёка не такая, якая належалася б адзінай такога тыпу імпрэзе ў краіне.

Пачынаецца пунктуальна. Увесь сабор запоўнены ды ўсё яшчэ людзей прыбывае. У праграме інаўгурацыйнага вечара толькі адзін канцэрт — Дзяржаўнага хору Беларусі пад кіраўніцтвам Людмілы Яфімавай, лаўрэата XII выпуску Фестывалю.

Прывітанням гасцей ды іншых афіцыйных асоб няма канца. Уся гэтая частка зацягваецца роўна гадзіну. Людзі крышку непакояцца. Што ж, набліжаецца час выбараў ды ўсякія афіцыёзі ліпнуць нават да царкоўнай музыкі, як мухі да мёду. (Як прынцып, усе яны пасля таго, як прагучала іхняе прозвішча ды воплескі, далі ходу, з сенатарам Збігневам Рэлігам на чале.) Мітрапаліт Васілій уручае яшчэ медалі св. Марыі Магдаліны II ступені за выключныя заслугі для развіцця Праваслаўнай Царквы. Атрымліваюць іх, між іншым, Мікалай Бушко — за шматгадовую папулярызацыю царкоўнай музыкі ды арганізатарскую працу ў гэтай галіне, ды... Яўген Сачко — дырэктар мясцовага беларускага ліцэя.

Выступаюць таксама з прывітальным словам прыбыўшыя госці. Прывесці тут, па-мойму, варта і трэба два выказванні. Мітрапаліт Васілій, традыцыйна ўжо, звярнуў увагу на генезіс царкоўнай музыкі, а таксама на тыя элементы ў ёй, якая яна ўвабрала ў сябе ў наш час. Сучасная музыка, — мітрапаліт меў тут на ўвазе маладзёжную, няйначай, — вельмі ж жорсткая ў сваім агульным выгуку. Хаця і бывае яна мілай для вуха, аднак, — тут Яго Праасвяшчэнства паставіў націск, — не кладзецца ў сэрца чалавеку. Духоўнае задавальненне ў змозе даць толькі царкоўны спеў, бо ён — натуральная форма пераказу малітвы ў нашай традыцыі.

Віцэ-міністр культуры Міхал Ягела сказаў, што гайнаўскі Фестываль — вялікая мастацкая падзея, значэнне якой выходзіць па-за межы гэтай краіны. Польская Рэчыпаспалітая шануе свае дзеткі — беларусаў, украінцаў ці іншых. Шануе праваслаўе. Доказам гэтага, сказаў віцэ-міністр, мая тут прысутнасць у суправаджэнні шматлікіх ураднікаў — бурмістра, ваяводы, паліцыі, вайскоўцаў...

І наканец пачынаецца інаўгурацыйны канцэрт. Ён і лагодзіць той асадак у душы, быццам ад выбарчага мітынгу. Набожная засяроджанасць слухачоў, згашаная чырвань сукняў харыстак, сакавітыя басы мужчын...

XIII Фестываль царкоўнай музыкі бытдзе цягнуцца роўна тыдзень. Удзел у ім заявіла звыш трыццаці хораў. Трэба спадзявацца, што даставіць ён сваім верным слухачам незабыўныя ўражанні. Гаварылася крышку неафіцыйна ў час адкрыцця пра нефартовасць ліку „13" — у Гайнаўцы ніхто ў такую моц не верыць.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**
**Фота Я. Целушэцкага**

# СХІЗМА

Схізмаю называецца разлом унутры Царквы, а ерассю — фальшывая дактрына. Так разумеў гэта ап. Павел. Заходнія і ўсходнія цэрквы, якія называем каталіцкай і праваслаўнай, маглі ставіць сабе закіды аб узаемнай ерасі. Праваслаўныя абвінавачвалі каталікаў, што яны змянілі Сімвал веры, які быў зацверджаны Усяленскім саборам для ўсёй Царквы, каталікі паднеслі ў ранг догмату ўласную навуку аб прымаце ўлады рымскага папы, які адкінула ўсходняя Царква. Але цяжка цяпер даказаць, калі наступіў канчатковы разлом паміж Праваслаўнай і Каталіцкай цэрквамі. Між усходняй і заходняй часткай хрысціянскага свету існавала заўсёды розніца. Усходняя Царква развівалася на тэрыторыі прасякнутай духам элінізму, дзе галоўнай мовай была грэчаская. Там узровень асветы быў намнога вышэйшы, чым на Захадзе. Там яшчэ надоўга перад імператарам Канстанцінам Вялікім было многа выдатных вучоных, якія прынялі хрысціянства. І там прызналі, што праўдзівую хрысціянскую дактрыну можа акрэсліць толькі сабор. Усяленскі сабор быў прызнаны працягам сходу апосталаў у часе Пяцідзесятніцы. Там верылі, што Святы Дух сыходзіць на сабраўшыхся на саборы, кіруе імі і даводзіць да перамогі праўды. І ўсё, што зацверджана на саборы, ніякая царква самастойна не можа змяніць. Змяніць мог толькі новы сабор. Усходнія хрысціяне былі моцна прывязаныя да сваёй літургіі, у якой прымалі ўдзел усе веруючыя. Адыгрывала ў ёй ролю нават убранне царквы, іконы, мазаікі. На Захадзе было інакш. Хрысціянская рэлігія развівалася там слабей, чым на Усходзе, а язычаства існавала там вельмі доўга, асабліва ў культурным асяроддзі. Калі пад націскам варвараў, якія ў асноўным былі арыянамі, упала імператарская ўлада, адзінай арганізацыяй, якая далей існавала быў Касцёл. Не было больш імператарскіх намеснікаў і губернатараў, застаўся толькі рымскі папа з епіскапамі. Яны вялі перагаворы з варварамі. Пісанае права таксама меў толькі Касцёл. Калі паўсталі там новыя дзяржавы, яны кіраваліся пераважна звычаёвым правам, а нават правам племянным. Калі племяннное права не магло нечага вырашыць, тады ўмешваўся Касцёл. Многія ксяндзы станавіліся юрыстамі. Рымскі епіскап паволі станаў уладаром накшталт імператара. Узровень культуры ў заходніх правінцыях быў вельмі нізкі, а наезды варвараў знішчылі адукаванае свецкае саслоўе ў Італіі. Адзіныя школы, якія асталіся, былі пры касцёлах і для Касцёла. Вельмі многа свецкіх людзей на Захадзе доўгі час не ўмелі ні чытаць, ні пісаць. Нават заходні імператар Карл Вялікі ніколі не навучыўся пісаць. Гэта ўсё дало пазіцыю Касцёлу на Захадзе, якой не мела Царква на Усходзе. Літургія на Захадзе была містэрыяй, якую вялі ксяндзы. Людзі яе не разумелі. Калі грэчаскую мову ведалі амаль усе на тэрыторыі Візантыі, дык лаціна на Захадзе была для большасці веруючых чужой і незразумелай мовай. Аўтакратычная канстытуцыя Касцёла на Захадзе пад уладай рымскага папы была вынікам гістарычнага развіцця. Каб мець большую ўладу, рымскія папы знайшлі матывіроўку ў знаходжанні быццам бы ў Рыме ап. Пятра, якому быццам бы Ісус Хрыстос даў уладу „звязвання і развязвання" і стаць скалой, на якой збудаваўся Касцёл, і які быццам бы памёр як епіскап Рыма. Матывіроўка гэтая ўзнікла на Захадзе дзесьці ў пачатку III ст. У сувязі з гэтым рымскі папа стаў не толькі найвышэйшым уладаром Касцёла на Захадзе, але і бясспрэчным аўтарытэтам у справах дактрыны. Тамашні сабор зацвярджаў толькі рашэнні папы. Папа стаў атаясамленнем Касцёла. На Усходзе толькі Усяленскі сабор быў беспамылковым, а на Захадзе беспамылковасць была абсалютнай прэрагатывай рымскага папы. Папа з часам стаў аўтакратычным уладаром Касцёла. Але гэтага было мала і Рым пачаў імкнуцца займець уладу над усімі хрысціянамі і патрыярхамі пры дапамозе прыдуманай на Захадзе тэорыі аб прымаце папы.

З часам усходнім і заходнім хрысціянам было ўсё цяжэй зразумець адзін аднаго. І адны і другія верылі ў Ісуса Хрыста, Святую Тройцу і ў таінства, але спраўлялі аддзельныя рытуалы. Нават інакш прычашчаліся. Каб узмоцніць тэорыю прымату папы, выдалі ў Ватыкане фальшаваны „Даравальны запіс Канстанціна Вялікага", які быццам бы імператар даў рымскаму папу Сільвестру. У часе Усяленскага сабора ў Халкідоне папа Леў I заявіў, што праўдзівае веравызнанне заключана ў яго заяве названай томусам. Усходнія патрыярхі не хацелі з ім згадзіцца, але пад націскам імператара яго прынялі як аснову да дыскусіі на Саборы і, калі далі некалькі паправак, зацвердзілі яго. Але рашэнні Сабора ў Халкідоне былі адкінутыя патрыярхамі і епіскапамі Сірыі і Егіпта і яны папалі ў монафізітызм. Калі імператар стараўся пайсці з імі на кампраміс, Рым выступаў супраць увядзення змен у томусе. Калі імператар Зянон аб'явіў свой хенатыкон, якім хацеў памірыць усіх і патрыярх Канстанцінопаля Акакій (471—489) яго падтрымаў, то рымскі папа Сімплікій (468—483) кінуў анафему на Акакія, а яго наследнік Фелікс III (483—492) яе падтрымаў. Дайшло да разлому між Царквой Канстанцінопаля і Касцёлам Рыма. Схізма прадаўжалася з 484 г. па 518 г. Калі папа Анастасій II (496—498) пагадзіўся з Канстанцінопалем, то яго ўласны Касцёл прызнаў яго ерэтыкам (а пазней Дантэ памясціў яго ў пекле).

На IV Усяленскім саборы асудзілі чатырох канстанцінопальскіх патрыярхаў і рымскага папу Ганорыя I (625—638) за монафелітызм і апынуўся ён у спіску ерэтыкаў. А двух патрыярхаў Канстанцінопаля, якія раней былі ў схізме з Рымам, сталі лічыць прававерны́мі. У X і XI ст. праўдзівую буру выклікала спрэчка з-за дадатка „фільёквэ" (і Сына) да Сімвала веры, які ўвялі рымскія папы пад націскам нямецкіх імператараў. Калі Заходні Касцёл сам адзін, без Усяленскага сабора, змяніў Сімвал веры, то ён паводле усходняй Царквы папаў у ерась. Патрыярх Фоцій заяўляў, што дабаўленне „фільёквэ" да Сімвала веры прывяло заходні Касцёл да таго, што ён прыняў нешта з маніхеізму, бо падзяліў істоту Тварца на дзве роўныя істоты. Калі папы рымскія прысылалі свой Сімвал веры з дадаткам „фільёквэ" ў Канстанцінопаль, то яны не ўпісваліся ў візантыйскія дыптыхі (спіскі прызнаных брацкіх патрыярхаў) і так паўставала схізма між Канстанцінопалем і Рымам. Пачалася яна ў 1009 г. Да гэтага часу рымскія папы адкідвалі дадатак „фільёквэ" і нават папа Леў III выпісаў Сімвал веры на срэбных табліцах ўнутры сабора св. Пятра без гэтага дадатка. У 1009 г. памёр папа Іаан XVIII, апошні папа, які быў упісаны ў дыптых над Басфорам. Яго наследнік Сяргей IV (1009—1012) выслаў сінодскі ліст у Канстанцінопаль патрыярху Сяргею з дадаткам, і патрыярх яго адкінуў ды ў дыптыху не памясціў. Усходнія хрысціяне называлі цяпер заходніх хрысціян схізматыкамі, а нават ерэтыкамі. Але нягледзячы на гэта, сувязь між усходняй і заходняй цэрквамі не была спынена. Але, калі 16 ліпеня 1054 г. галоўны сакратар папы, кардынал Гумберт увайшоў у сабор св. Сафіі са сваімі памочнікамі і палажыў булу аб адлучэнні ад Царквы патрыярха Канстанцінопаля Міхаіла Керулярыя, наступіў разлом між Усходам і Захадам. Нахабства рымлян нельга было даравацъ. Канстанцінопальскі сінод кінуў клятву на Гумберта і яго таварышаў, але не на заходні Касцёл. Рым не выступіў супраць Гумберта і так схізма не была ўстаранёная. Керулярый з часам стаў праваслаўным народным героем, а разлом павялічваўся. Пазнейшыя крыжовыя паходы, якія праходзілі цераз Візантыю, давялі да яшчэ большай нянавісці грэкаў да заходніх хрысціян з-за рабункаў і нападзенняў крыжаносцаў на мірнае насельніцтва Усходу.

**Д. ШАТЫЛОВІЧ**



 

# З МІНУЛАГА НАРАЎКІ І АКОЛІЦ

## Частка I

Першапачаткова, недзе ў пачатку XVII стагоддзя ў Белавежскай пушчы ўзнікла пасяленне рудніка Тамаша Выдры-Палькоўскага, мазаўшаніна з-пад Ліва. Ён эксплуатаваў балотныя руды асадкавага паходжання ў далінах рэк. Жалезныя руды залягалі ў форме пластоў 15—20-сантыметровай таўшчыні. Каля Наравкі апрача невялікіх паверхневых пластоў, сустракаюцца значна таўсцейшыя пласты на глыбіні 1—1,5 метра. Руднікі заняліся дабычай і плаўленнем жалеза. У канцы першай паловы XVII стагоддзя Нараўка была ўжо вёскай у тадышнім Пружанскім павеце.

У Нараўчанскай акрузе ў XVII стагоддзі існавалі ўжо фальваркі ў Луцэ, Масеве, Лясной, Ляўкове, Нараўцы.

У 1777 годзе ў Нараўцы быў заснаваны касцёл і ў 1794 годзе — царква. Нараўка стала мястэчкам. У 1885 годзе яно налічвала 860 жыхароў. У 1906 годзе недалёка ад Нараўкі закончылі пабудову чыгункі з Гайнаўкі ў Ваўкавыск цераз Семяноўку.

Велізарныя запасы высакаякаснай драўніны ў лясах Белавежскай і Лядскай пушчаў прыцягнулі ўвагу тагачаснага міністра Антонія Тызенгаўза. Ён у пачатку XVIII стагоддзя перасяліў сюды спецыялістаў з Мазоўша і арганізаваў прадукцыю паташу на экспарт. У прымітыўных умовах яны прадукавалі вугаль, смалу і паташ. Такая „фабрыка" паташу працавала, між іншым, у Масеве. Перасяленцы заснавалі вёску Буды (пасля яна належала да маёнтка Ляўкова Зыгмунта Масальскага) і вёску Тэраміскі. Аднак, у выніку канкурэнцыі заходнееўрапейскай прымысловасці і страты заходніх рынкаў пасля раздзелу Рэчы Паспалітай, прадукцыя была закінута. Пабудаваныя Тызенгаўзам нават новыя майданы таксама працавалі нядоўга, бо былі закрыты загадам цара „каб не нарушалі спакою Пушчы".

Значна лепш развівалася гута шкла ў Нараўцы. Пабудавалі яе ў 1904 годзе браты Чарнігавы. Пяцьдзесят рабочых прадукавалі з мясцовых кварцавых пяскоў бутэлькі. Некалькі год пасля на заводзе былі ўстаноўлены два шліфавальныя станкі, павялічана лік рабочых да 200 чалавек і наладжана прадукцыю крышталёвай галантарэі — збанкоў, паўміскаў, падсвечнікаў, сталовых лямпаў, а таксама шкла для нафтавых лямпаў, мухаловак, шклянак і г.д. Увесь міжваенны перыяд змяняліся ўласнікі. Адным з іх быў Гацкель. Каля 100 мясцовых і навакольных рабочых выраблялі толькі бутэлькі. У 1939 годзе завод згарэў. Адбудову і разбудову яго пачалі пры савецкай ўладзе, але ў 1943 годзе быў ён гітлераўцамі канчаткова знішчаны.

Апрача шклозавода ў Нараўцы працаваў шкіпінарны завод, вадзяны млын на запруджанай у ставе рэчцы ды вятрак.

У 1915 годзе немцы, захапіўшы Белавежскую пушчу пачалі інтэнсіўную эксплуатацыю драўніны. З гэтай мэтай сюды сагналі каля 700 французскіх і рускіх ваеннапалонных, паставілі пад „адкрытым небам" у Нараўцы, Чарлёнцы і Гайнаўцы лесапільныя станкі і распачалі прадукцыю піламатэрыялаў на патрэбы ўсходняга фронту. З мэтай аблягчэння транспарту драўніны, у пушчы было пабудавана звыш 100 кіламетраў вузкакалейнай чыгункі, падрыхтавана склад. Аб размерах эксплуатацыі сведчыць факт, што за тры з паловай года адсюль вывезена каля 4 мільёнаў кубаметраў высакаякаснай драўніны. Наспех пабудаваныя прадпрыемствы восенню 1915 года згарэлі. Аднак, узрастаючыя патрэбы фронту змусілі немцаў да павелічэння прадукцыі і адбудовы заводаў.

У міжваенным 20-годдзі лесапільні працавалі у Нараўцы, Нарве і ў Белавежы, а таксама некалькі млыноў, між іншым на рацэ Нараўцы.

Да канца XIX стагоддзя на тэрыторыі Гайнаўшчыны, а ў тым ліку і Нараўшчыны не існавала прамысловасць будаўнічых матэрыялаў з увагі на дастатковую колькасць дрэва і традыцыйнае яго прымяненне ў будаўніцтве. Толькі пасля забароны царскім урадам высечкі лясоў пачалі паяўляцца ў 1890—1905 гадах першыя цагельні. Бурны перыяд развіцця іх наступіў пасля II сусветнай вайны. У 1958 годзе працавала невялікая цагельня ў Заблоччыне каля Нараўкі. У 1965 годзе пачалі пабудову вялікай кермічнай фабрыкі ў Старым Ляўкове. У тым часе існавала Спулдзельня працы ў Нараўцы, якая прадукавала вырабы з бетону (пустакі, слупкі, балькі) і чарапіцу. Дзейнічалі яшчэ прыватныя станкі па вырабу чарапіцы і пустакоў, між іншым, у Слабодцы.

У 1955—1960 гадах у Нараўчанскай гміне ўсе ветракі і вадзяныя млыны ўжо не дзейнічалі. У гэтым часе млыны знаходзіліся пад кіраўніцтвам розных аб'яднанняў, а з 1961 года яны былі ўжо перададзены нарадовым радам. Дзейнічалі таксама і прыватныя млыны. У 1962 годзе працаваў дзяржаўны млын у Нараўцы і прыватны ў Семяноўцы. Апрача таго сяляне карысталіся ўласнымі млынкамі, пры дапамозе якіх малолі асыпку для жывёлы.

Даволі шырока было развіта прыватнае рамяство. Амаль кожная большая вёска мела розных рамеснікаў. У Нараўчанскай акрузе дзейнічаў адзін пункт ганчарства ў Луцэ. Потым ганчарства заняпала з увагі на большую практычнасць фабрычных вырабаў.

Дагэтуль яшчэ захоўваецца народнае ткацтва. Раней ткалі дываны, плахты, ручнікі, абрусы ды ходнікі на высокім мастацкім узроўні. Ткалі таксама ільнянае палатно, з якога шылі вопратку. Плялі прадметы дамашняга ўжытку з саломы, лазы, карэння; таксама займаліся вырабамі з дрэва і металу.

У Нараўчанскай акрузе ёсць радовішчы карысных выкапняў. Упершыню торф выкарыстоўваўся ў прамысловых мэтах ва ўрочышчы Баб'я-Гара каля вёскі Семяноўка пры савецкай уладзе ў 1940 годзе і вывозіўся на чыгунцы ў Гайнаўку. Жыхары некаторых тамашніх вёсак яшчэ да I сусветнай вайны капалі добра перагніўшы торф і вывозілі яго на палі. Пасля гэты спосаб павелічэння ўраджайнасці глебы быў забыты. Аднак у сучасны момант сяляне зноў пачынаюць цікавіцца здабычай торфу.

У 1942 годзе, маючы неабмежаваную колькасць „бясплатнай" рабочай сілы і вялікія патрэбы ў жалезе, нямецкія акупанты эксплуатавалі балотныя руды каля вёскі Лука.

У час першай сусветнай вайны заняпала сельская гаспадарка. Царскі ўрад перасяліў мясцовых сялян у глыб Расійскай імперыі. Большасць сялян адправіліся на ўсход у „бежанства". Адны выязджалі на вазах, іншыя — чыгункай, пакінуўшы ўсю сваю маёмасць. У выніку эвакуацыі сельская гаспадарка была зруйнавана. Пасля 5—6 гадоў прастою ворыўныя землі ператварыліся ў выганы або пакрыліся лясамі. Сельскагаспадарчыя будынкі былі разбураныя.

Пачынаючы з 1918 года многія сяляне вярнуліся дамоў. На месцы пакінутых вёсак сустрэлі яны пажарышчы і аблогі. Галодныя і бяздомныя пачыналі адбудоўваць знішчаную гаспадарку. Дзякуючы моцнай волі, сяляне перажылі гэты найцяжэйшы перыяд, які закончыўся 1924—1926 гадамі.

Тагачасныя рынкі ў Нараўцы, Нарве, Гайнаўцы, Кляшчэлях — галоўнае месца продажу і куплі — знаходзіліся пад уладай скупшчыкаў, спекулянтаў, агентаў манапалістычных аб'яднанняў. Усе яны бязлітасна ашуквалі сялян.

Польская прэса пісала, што тагачасная вёска магла ўразіць сваёй беднасцю.

*(працяг будзе)*

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

# ЛЁС

Многія з нас, пакінуўшы родныя старонкі, думаюць, што найважнейшым у жыцці з'яўляецца дапасаванне да новага асяроддзя. Наш чалавек, каб не аставацца беларусам, пішацца ў розныя польскія арганізацыі і да такога тады не падыходзь: „Nie rozumiem, co ty mówisz " адкажа. Ён разлічвае на тое, што новая, чужая супольнасць дацэніць яго. Няцяжка аднак дадумацца як гэта закончыцца: хто кіруецца чужым, а не сваім, інтарэсам, таго бязлітасна выкарыстоўваюць. Уступчывасць і нізкапаклонства ўспрымаюцца як слабасць і выклікаюць у іншых ахвоту да яшчэ большага выкарыстоўвання нас. А разлічваць на дапамогу можам толькі тады, калі нехта бачыць у гэтым карысць для сябе. Дарэчы, у кожнай абшчыне адна яе частка атрымлівае карысць коштам другой. Адбываецца гэта пры дапамозе такіх лозунгаў як:

— не думай толькі пра сябе, мей на ўвазе іншых;

— спадзявайся на дапамогу іншых, калі сам памагаеш;

— адзін за ўсіх, усе за аднаго;

— усім паказвай добрае сэрца, а людзі будуць табе ўдзячны.

Такім чынам прайгралі мы выбары, галасуючы на чужы спісак, у які ўключаны быў адзін беларус. Карысць ад гэтага атрымаў Уладзімеж Цімашэвіч, а беларусам — дуля. У такой сітуацыі не шануюць нас і іншыя, чаго прыкладам можа быць канфлікт паміж „Нівай" і „Салідарнасцю". Ставіўся закід „Ніве", што там гавораць па-беларуску. А па-якому, — пытаюся,— маюць гаварыць: па-кітайску? Маем перад сабою выбар: або весці жыццё, якое нам падабаецца, або весці жыццё, якое падабаецца іншым. У першым выпадку трэба заплаціць вялікую цану, у другім — трэба адрачыся ад свайго роднага і маўчаць у сітуацыі, калі многае хочам сказаць.

Ідзе вясна, набліжаюцца выбары ў органы самакіравання. Галасуйма, братцы, толькі на беларускі камітэт, а не на тыя арганізацыі, якія хочуць нас абдурыць на сваю карысць.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

# УЛАДЗІМІР КЛІШЭВІЧ — ПАЭТ РЭФЛЕКСІЎНЫ

## Частка IX

Астаючыся пры паэзіі Клішэвіча перыяду нямецкай акупацыі, трэба сказаць, што характарызавала яе сумная і настальгічная настраёвасць, якая, зразумела, не вынікала з акцэнтаванага паэтам прамінання. Клішэвіч быў у тым часе зусім маладым, здаровым чалавекам і ў ніякім выпадку не меў дачынення са старасцю. Яго смутkаванне не вынікала з беспаваротнага бегу часу, а толькі з іншых прычын. Можна думаць, што прычыны гэтыя не мелі асабістага, а толькі грамадска-гістарычны характар. Знаходзячыся ў Англіі і Амерыцы, я некалькі разоў пытаў выдатнага эміграцыйнага крытыка, хто з беларускіх падакупацыйных пісьменнікаў верыў у магчымасць збудавання пад пратэктаратам пераможнай Германіі незалежнай беларускай дзяржавы. Адказы гэтага крытыка не мелі адназначнага характару, аднак сярод энтузіястаў пераможнай Германіі крытык гэты не называў Уладзіміра Клішэвіча.

Паэт, які пабыў у савецкім лагеры, болей чым іншыя ведаў пра чалавечае зло і крыўду, і, мабыць, не верыў, што зло і крыўда могуць перамагчы назаусёды, а тым болей, што могуць яны ашчасліваць чалавека.

Зразумела, што Клішэвіч думаў перад усім пра тое зло і крыўду, якія ішлі ад сталінізму. Аднак цяжка паверыць, каб дапытлівы і ўніклівы пісьменнік не заўважаў таго зла і крыўды, якім лавінна палівалі беларускі народ гітлераўскія акупанты. І якраз гэтым, мабыць, трэба тлумачыць як бы ўцёкі Клішэвіча ў сферу эстэтычнага смакавання адвечнага прамінання і звязаных з ім сумных паэтычных рэмінісцэнцый.

Адпіханы суровай рэчаіснасцю, шукаў ён паэтычнай самарэалізацыі ў разважаннях аб сэнсе жыцця, хаця і ведаў, што не ўнясе нічога новага ў гэтую адвечную і невырашальную праблему.

Знаходзіў паэт і яшчэ адну сцежку ратунку. Была гэта сцежка, якая вяла яго ў вечнае хараство прыроды, што аказвалася збавеннай краінай для тых, хто пападаў у жыццёвую пастку на працягу ўсёй гісторыі цывілізаванага чалавецтва. На некалькі месяцаў перад поўным крахам гітлераўскай Германіі на Беларусі, паэт напісаў прыгожы верш „Трыццік".

*Устала сонца рана над ракою.*
*П'юць срэбра водаў ціха прамяні.*
*Зямля прачнулася ад соннага*
*спакою,*
*Высока ў небе жаўранак звініць.*
*П'юць ціха срэбра водаў прамяні,*
*Гарыць рака агністым пералівам,*
*Высока ў небе жаўранак звініць*
*Сваёю ранній песняю шчаслівай.*
*Гарыць рака агністым пералівам,*
*І новы дзень — жыцця святы*
*прыход —*
*Сваёю дзіўнай песняю шчаслівай*
*Зямля спаткала сонечны ўсход.*

Прыведзены верш цікавы не толькі з-за светлай радаснай тэматыкі, якая як бы не падыходзіла да суровай акупацыйнай рэчаіснасці, але таксама з прычыны незвычайнай канструкцыі. Аўтар па два разы выкарыстаў другі і чацвёрты радкі першай і другой страфы, паўторна ўжываючы іх у наступных строфах, аднак змяняючы іх пазіцыю і чарговасць.

Маем тут дачыненне са свайго роду жанглёрствам паэтычнымі радкамі, якім аўтар прызначае розныя функцыі ў чарговых строфах.

Усё гэта сведчыць аб фармальным майстэрстве паэта, які, нягледзячы на характар суровага часу, эксперыментаваў, узбагачаючы тэхніку вершаскладання.

Незалежна ад таго, як ацэнім творчасць Уладзіміра Клішэвіча перыяду акупацыі, мусім сказаць, што паэт не страціў часу і плёна яго выкарыстаў у працэсе лірычнай самарэалізацыі.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# БАБУЛІНЫ СНЫ

Пыталі мяне, як гэта магчыма, што я памятаю песні, якія спявала мне бабуля. Тады мне ўсё стала перад вачыма — той час, калі жылі мая бабка, а нават прабабка (яна памерла, калі мне было чатыры гады). Да сёння памятаю, як апраналася прабабка: насіла яна саматканую спадніцу чорнага і карычневага колераў — саян, купную плюшавую блузку, хустку-шаліноўку. У прабабкі былі чорныя валасы. Аж шкадую, што ні ў бабы, ні ў мамы, ні ў мяне нама такіх валасоў...

Памятаю, як аднойчы мяне прабабка настрашыла. Мама з бабцяй пайшлі позняй восенню да нейкай жанчыны церці лён ці каноплі, а прабабка Зося мяне пільнавала. Прыйшоў вечар, і трэба было прабабцы ісці карміць жывёл і даіць кароў. Дзень быў досыць халодны, і яна папрасіла мяне, каб я пасядзела адна. Я, вядома, хацела ісці дапамагаць ёй упраўляцца, і пачала плакаць. Прабабка ўзяла кажух з чорнай аўчыны, панасіла яго пад акном і прынесла яго дадому.

— Вось бачыш, — сказала, — гэта воўк. Ён хацеў цябе з'есці, але я яго забіла.

Прабабка кінула кажух і пагразіла:

— Калі ты выйдзеш з ложачка, ён ажыве і захоча цябе з'есці!

Я сядзела нерухома, утаропіўшыся ў мёртвага „ваўка", аж урэшце заснула...

Мая прабабка Зося нарадзілася ў 1888 годзе. Нарадзіла чацвёра дзяцей, але выгадаваліся іх толькі двое — мая пакойная бабуля Маланія і яе брат Панцеляймон, які жыве ў Гайнаўцы.

Калі прабабка выходзіла замуж, я не ведаю. Проста, не ўсё ўдалося мне запамятаць... Захаваліся ў маёй памяці толькі яе аповяды пра бежанства.

Перад пачаткам першай вайны пачалі сніцца прабабцы сны пра нейкую вёску, у якой дамы маюць роўныя дахі, а не спадзістыя, як будуюцца ў нас. Калі наблізіўся фронт, казакі пачалі пераконваць людзей, каб уцякалі са сваёй роднай зямлі ад здзекаў немцаў. „Ступай, ступай быстрее, германец идёт!" — прыгаворвалі казакі, так казала Зося. Хто пабаяўся нямецкай навалы, падаўся ў глыб Расіі. Людзі ехалі з усёй маёмасцю, везлі кароў, авечак. Хто ехаў сваім возам, а хто прадаў свае, падаўся ў далячынь цягнікам. На кожным прыпынку была кухня, давалі людзям кубак кавы, міску супу — фінансаваў гэта Тацянінскі камітэт (ад імя дачкі цара Тацяны). Сям'ю завезлі ў вёску ў 80 вёрстах ад Барнаула, дзе жылі татары. Аб іх казалі, што могуць мець столькі жонак, колькі могуць выкарміць. Расказвала прабабка, што калі татару падабалася малалетняя дзяўчынка, то адкупляў яе ў бацькоў і гадаваў сабе, а калі ўжо мела яна менструацыю, рабілі мусульманскае вяселле. Канфліктаў паміж рускімі і татарамі не было. Што здзіўляла нашых людзей, то тое, што там сяляне мелі свае конныя касілкі і малатарні. Не раз пасля вяртання з бежанства расказвалі, што ў нас у найбагацейшага гаспадара будзе тое ў стадоле, што там у найбяднейшага... застанецца ў полі.

Дамы ў гэтай вёсцы былі пераважна двухпавярховыя. Бежанцаў размясцілі па кватэрах. Нашых пасялялі пераважна на паверсе. Клімат быў суровы, снегу столькі, што засыпаў дамы, і жыхары пракопвалі ў ім тунелі. І вось стрэхі хатаў былі простыя, як у прабабуліных снах! Аднойчы яна пачула, што нешта шурнула па даху. Снегу было роўна са страхой, і хтосьці паехаў па ёй санямі!

Прабабуліны сёстры выйшлі ў бежанстве замуж, адна за багатага селяніна (засталася там жыць, калі ўсе паехалі дамоў), другая за купца, які гандляваў каровамі. Ездзілі ад вёскі да вёскі. Аднойчы нанялі пакой у адной жанчыны на начлег. Хтосьці ноччу прыйшоў і пытаўся пра прыезджых, якія якраз спалі, а грошы трымалі на грудзях. Гаспадыня паказала іх пакой. Мужчына забіў маладое сужонства жалезнай палiцай.

Да другой вайны перапісваліся, але пасля вайны вестак ужо не было. Невядома, ці застаўся там хто ў жывых, ці ёсць нашыя сваякі ў Сібіры.

У час рэвалюцыі было страшна. Гарэлі вёскі. Тых, хто памагаў бальшавікам, палілі белыя, а белых палілі бальшавікі. Брат быў супраць брата, дзеці супраць бацькоў. Людзі казалі, што хутка будзе канец свету. Колькі людзей тады загінула! Успыхнула яшчэ і эпідэмія халеры. За суткі гэтая страшная хвароба магла здужаць наймацнейшы арганізм. Былі такія сем'і, дзе ніхто не ўцалеў. У нашай сям'і ніхто ад халеры не памёр, бо дапамагла нейкая карбалёўка, якою шмаравалі сцены, казала прабабка; памёр толькі гаспадар дому. Перад гэтым прысніўся прабабцы сон — быццам яе муж Давыд прыйшоў з вайны і прывёз другую жонку, апранутую ў белую сукенку і белую хустку. Запыталася ў сне Зося сваю матку, ці не выгнаць яе, але тая параіла не чапаць тую жанчыну. Кабета пастаяла, пасля махнула рукой і пайшла па ўсёй вёсцы.

Успамінала прабабка яшчэ і страшны вецер буран. Калі вецер павее і пясок пакоціцца па зямлі, гэта знак бурану. Тады ты чым хутчэй дабягай да вёскі, калі ты ў дарозе, каб зачыніць браму, бо калі буран расшалеецца, нікога ў вёску не ўпусцяць (вёскі былі ўсе агароджаныя).

Палеткі і лугі былі там далёка ад вёскі. Каб высушыць сена, парабіць усе палявыя работы сяляне ехалі на пару тыдняў. Дома заставаліся толькі старыя пільнаваць гаспадарку.

Калі нашыя вярнуліся ў Семяноўку, усё было знішчана. Мая васьмігадовая тады бабуля Маланія са сваёй бабуляй хадзіла па вёсках, прасілі трошкі збожжа і бульбы, каб пражыць. Усім было цяжка пачынаць новае жыццё на роднай зямлі.

**АЎРОРА**

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-2710, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego: 5021-24325-152-6787. Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак 141713 у рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| 4304. Інакенцій Сідарук (Гайнаўка) | — 100.000 зл. |
| 4305. Вольга Сянкевіч (Гайнаўка) | — 50.000 зл. |
| 4306. Іаланта Грыгарук (Гайнаўка) | — 50.000 зл. |
| 4307. Валянціна Андрасюк (Гайнаўка) | — 10.000 зл. |
| 4308. Валянціна Бабулевіч (Бельск-Падляшскі) | — 50.000 зл. |
| 4309. Вольга Рыгаровіч (Гайнаўка) | — 100.000 зл. |
| 4310. Славамір і Гражына Бароўскія (Беласток) | — 150.000 зл. |
| 4311. Сцяпан Андрасюк Гайнаўка) | — 60.000 зл. |
| 4312. Васіль Дамброўскі (Гайнаўка) | — 60.000 зл. |

**Дзякуем.**

**Наш адрас:** Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej w Hajnówce, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.

# ВІРАВАНКА З „Л"



1. супольнае для школы і коласа, 2. сімвал мацярынства, 3. жывёльны тлушч, 4. лыч, 5. жаночы голас, 6. мае лапатападобныя рогі, 7. не сып яе на раны, 8. мышалоў, як белы балотны туман, 9. чатыры браты пад адным брылём, 10. пастка на птушкі з конскага воласа, 11. рыжая ды хітрая, 12. пасланец Бога, 13. рэжа або сячэ, 14. крымскі курорт, 15. шум, гамана, сумятня, адурэнне, замарачэнне, натоўп, 16. частка агнястрэльнай зброі.

**ядань**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 16 н-ра:**

**Гарызантальна:** Крым, табун, абраза, азот, білет, рамень, Рэнесанс, каста, капытнік, персанал, вайна, вінаград, манета, родны, бэта, калена, міска, торт.

**Вертыкальна:** кабіна, Шуберт, разведка, Матра, Брамс, дзень, тэдаліт, антыквар, Кіпр, сера, гной, Акра, алігатар, Адоніс, нянька, таран, вецер, набат.

Кніжную ўзнагароду высылаем Лукашу Пацэвічу з Беластока.




Астроне, прысніўся надта дзіўны сон. Цэлую ноч праследаваў мяне, не даючы спакою. Не ведаю, дзе я знаходзілася: ні то ў тэатры, ні то ў цырку нейкім. Былі там людзі, пераапранутыя ў цыркавую вопратку. Яны выступалі ні то на сцэне, ні то на арэне. І быццам бы на цыркавой арэне знаходжуся я, а вакол мяне танцуюць укругавую, узяўшыся за лапкі, пацукі, апранутыя ў касцюмы клоунаў. І ўсю ноч гэтыя пацукі (ці вялікія мышы) праследуюць мяне. Вельмі знерваваў мяне гэты сон,. А ты што думаеш на гэту тэму, Астроне? Ага, пацукі гэтыя на выгляд былі даволі мілыя. Яны стаялі на дзвюх задніх лапках, а трымаліся адзін за другога парэднімі лапкамі. Усё гэта выглядала, як у фільмах Дыснея.

**Ірка**

Ірка! Твой сон нядобры. Ужо само тое, што ты ў сне была ні то ў тэатры, ні то ў цырку, гаворыць кепска пра тваіх калег і прыяцеляў. Ты не можаш ім верыць, бо яны фальшывыя і ілжывыя. Толькі чакаюць, каб падставіць табе нагу. Але табе прыснілася яшчэ больш. Былі пераапранутыя ў чырвоныя касцюмы людзі, а што яшчэ горшае — апранутыя ў касцюмы клоунаў пацукі. Абазначала б гэта нават, што ёсць у цябе скрытыя ворагі, якія здаўна ненавідзяць цябе, а робяць у вочы прыгожыя мінкі (як тая вопратка). Цяжка будзе табе, на жаль, ад іх адчапіцца.

**АСТРОН**



*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**ПОСНЫ ХАЛАДНІК**

Прадукты:

*жменя шчаўя,*
*жменя шпінату,*
*2—3 шклянкі хлебнага квасу,*
*крыху алею ці масла,*
*капчоная рыба,*
*зялёная цыбулька, кроп, агурок і г.д.*

Шчаўе і шпінат падтушыць у асобных кастрыльках, працерці праз сітца, тады спалучыць, развесці хлебным квасам, заправіць па смаку, ахаладзіць. Разліць у талеркі. Да кожнай порцыі дадаць кавалкі рыбы, пасечаную зялёную цыбульку, агурок, кроп, сцерты на тарцы хрэн і г.д.

**ГАСПАДЫНЯ**




**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1994 r. upływa 20 sierpnia 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 9000 zł., a kwartalnie - 117000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

